PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 1 (2069) ГОД XLI БЕЛАСТОК 7 СТУДЗЕНЯ 1996 г. ЦАНА 70 грошаў (7000 ст. зл.)

## ЇГРАЕМ ДЛЯ ЛЮДЗЕЙ

*У тым, што „disco polo" заваюе свет, хлопцы з гурту „Ас" не сумняваюцца. Назва музыкі тут даволі ўмоўная. У Расеі, напрыклад, бесканкурэнтная „папса" — тое ж самае, што польскае „disco polo". На дарозе да сапраўднай экспансіі гэтай музыкі стаяць яшчэ непрыхільныя мас-медыі, але ўжо нядоўга. Свабодны рынак і грошы пераможуць. Сёння ў Польшчы касеты з музыкай „disco polo" разыходзяцца мільёнымі тыражамі. Беласточчына на гэтым рынку з'яўляецца лідэрам.*

**Ярэк Баравік:** — Спачатку былі гэта перароблены старыя гіты з забаваў, з войска. Потым даходзілі новыя элементы, часта з Захаду, пішуцца новыя песні на сучасныя электронныя інструменты.

**Славік Трафімюк:** — Гэтая музыка яшчэ выб'ецца, бо мае народныя карані, славянскую душу. Яна духова аб'ядная народы.

**Ярэк:** — Смяюцца з нас, што гэта прымітыўна, але напачатку і з „Бітлз" смяяліся.

**Славік:** — Рок-музыка, гэта дэкаданс. Яна мае дэструктыўны характар, асабліва новыя гатункі, такія як рап. Гэта бунт маладых з вялікіх заходніх гарадоў. Мы не бунтуемся, мы задаволены жыццём.

**Ярэк:** — У нас аптымістычны падыход да свету.

**Славік:** — Мы жывем для сям'і, дзеля захавання традыцыі. Я не ўяўляю сабе, каб я Каляды праводзіў не са сваёю сям'ёй. Мы выхаваныя на хрысціянскай маралі. І такая наша музыка — у ёй не знойдзеш нічога немаральнага, абразлівага. Мы з Захаду можам браць прыклад, калі ідзе пра вопратку ці тэхніку, але культура ў нас свая.

**Ярэк:** — Нашая музыка лёгкая, да танца і для адпачынку. З прыемнай мелодыкай.

**Славік:** — Мы іграем для такіх самых як мы выхадцаў з вёскі. Я добра ведаю гэтых людзей. Я іх дзесяць гадоў ужо спатыкаю ў царкве ў Дайлідах, у маладзёжным брацтве. Я іграю на Новы год, на іхніх вяселлях. Я прыехаў у Беласток у 1986 годзе. Гэта ўжо быў добры час, больш свабодны. Каб я прыехаў у сямідзесятыя, мяне горад засмактаў бы, я б растапіўся ў натоўпе. А так, як палякі вакол Касцёла, мы пачалі гуртавацца вакол Царквы. Ніхто ж у той час не ішоў у БГКТ.

Беларусам я стаў дзякуючы касетам з украінскай музыкай, якія выпускала эміграцыя. Так што я разумею паяўленне украінцаў у нас — у дваццацігадовым узросце я сам перажываў нешта падобнае. Беларусам чалавек становіцца як дарастае, трэба каб было яму прынамсі дваццаць пяць гадоў. Мне дапамагла яшчэ паўгадовая пабыўка ў Лондане. Дзякую за гэта, перш за ўсё Пятру Багроўскаму, якога лонданская сцежка пяройдзе ў гісторыю. Дапамаглі мне сустрэчы з беларускімі эмігрантамі, такімі як а. Аляксандр Надсон, Янка Міхалюк, Аляксандр Лашук. Тамтэйшыя беларусы дапамаглі знайсці мне недарагую кватэру. У Лондане зарабіў я на апаратуру і падняўся на іншы ўзровень у музыцы.



*Славік родам са Стральцоў. Ярэк — з Паўднёвага Вострава. Яны вучыліся разам у „электрыках". З трэцім — Андрэем Садоўскім, якога бацька з Гароднік, Нарваўскае гміны, — Славік пазнаёміўся на забаве ў Трасцянцы. Было супольнае жаданне — іграць.*

**Ярэк:** — Мы, відаць, нарадзіліся з любоўю да музыкі. Мары пра свой гурт былі ўжо змалку. Галоўная перашкода — не хапала грошай на інструменты.

**Славік:** — Я сапляком бегаў на вясковыя забавы. Ведаю ўсе тадышнія гіты, як: „Jest miasteczko ponad rzeczką", „Jak się masz", „Baju baj". Потым залазіў на панадворку за жэрдкі і гадзінамі бубніў у гаршкі. Калі бацька купіў мне магнітафон, то я ўсе радыёперадачы Рудчыка запісваў. Таксама маю ўсе песні гурту „Дубіны".

*Няма „Беларускага канцэрту пажаданняў" у Беластоцкім радыё, каб не паявілася песня „Аса". Найчасцей гучаць дзве ў адным канцэрце: „Мама" і „Песня пра каханне".*

**Славік:** — Напісаць песню „Мама" заінспіраваў мяне Юрка Ляшчынскі. Быў я на танцах у клубе БГКТ, дзе „Рэаль" іграў усе старыя песні. А потым сустрэўся я з Юркам і той кажа, што на радыё няма песень, якія б можна было пускаць, скажам, на Дзень маці. У песні самы галоўны прыпеў. У маёй памяці наймацней захаваўся такі вобраз: нядзеля, дзесьці чацвёртая пасля поўдня, вясна ці восень, сямейнікі сядзяць разам, а мне трэба ісці на аўтобус, ехаць у горад. Сумна. Мама праводзе на вуліцу, памахае рукою. І гэты вобраз стаў прыпевам, а строфы дапісаць было ўжо лягчэй. „Песню пра каханне" пісаў даўжэй. Ну вядома як гэта ёсць, сябраваў з дзяўчынай, потым разышліся. А музычнай базай была руская песня „Каким ты был". Калісьці праводзіў я з гармонікам сябра на аэрадром Акэнце. Ён адлятаў у Англію і на развітанне, у варшаўскім атобусе іграў я яму гэтую песню. А „Едуць, едуць гарадскія" напісаў я дзесьці за тыдзень. Працаваў я ў краме ў Дайлідах, насупраць гэтай прадуктовай, зараз за рэйкамі. Сядзеў па восем-дзевяць гадзін і глядзеў на паток машын, якія пруць на вёску. Ды і я сам такі ж „гарадскі".

*Два гады таму „Ас" выступіў на „Басовішчы".*

**Ярэк:** — Гэта была памылка. Там зусім іншае асяроддзе, якое нашу музыку ўспрымае не надта добра.

**Славік:** — Мне, напрыклад, на „Басовішчы" спадабаўся „Палац". Хлопцы ігралі меладыйную музыку, вельмі добра спявалі. Бо дзеля чаго існуе музыка? Або каб пры ёй патанцаваць, або слухаць яе, лежачы на канапе. Мне здаецца, што на такіх канцэртах, як „Басовішча", людзі самі не ведаюць, чаго хочуць.

**Ярэк:** — Мы не любім рыку „шарпідротаў".

**Славік:** — У рок-музыцы хопіць, каб даўгакосы хлопчык ударыў некалькі разоў па струнах і гэта ўжо музыка, усе ім захапляюцца. А калі хтосьці доўга думае, намагаецца як найпаўней пераказаць свае пачуцці, таго не пускаюць у мас-медыі.

**Ярэк:** — Мы не выступаем супраць рок-музыкі ў цэлым. Любім, напрыклад, польскі рок з першай паловы васьмідзесятых гадоў. Ён быў спакайнейшы, ніхто з музыкаў не абражаў Бога. Трэба памятаць, што ў кожным жанры ёсць добрыя і слабыя выканаўцы. Таксама ў „disco polo" не можна бачыць адно барахло.

**Славік:** — Я думаю, што наша музыка больш блізкая народнаму характару, чымсьці тая, якая гучыць на „Басовішчы". Некаторыя могуць з нас смяяцца, але гэта нашыя песні спяваюць людзі. Дазвольце ім выбіраць. Не думайце, што наш народ не ведае, чаго хоча, што ён дурны. Не, наш народ не дурны.

Запісаў
**Мікола Ваўранюк**

## Быў год 1995

Год, які мінуў, напэўна па-рознаму будуць ацэньваць паасобныя народы, палітычныя плыні кожнай краіны, групы грамадзян аб'яднаных вакол нейкай ідэі і людзі як паасобныя адзінкі. Інакш будзе ён выглядаць у вачах югаслаўскіх народаў, а інакш будуць яго бачыць немцы, швейцарцы, галандцы, у гісторыі якіх будзе адзначана, што з'елі больш шакаладу, мяса, выпілі больш піва і лімоннага соку, купілі больш камп'ютэраў і аўтамабіляў, чым у мінулых гадах. Так сама было з лёсам паасобных людзей. Адны радзіліся, другія жаніліся, а шматлікія закончылі сваё падарожжа па нашай Зямлі. Невядома колькі людзей патраціла працу, надзею, пашану, гонар; невядома таксама колькі чалавек атрымалі ўсё тое, аб чым марылі. Калі ўважліва глянем вакол сябе, лёгка заўважым, што жыццё, як заўсёды, складалася з неакрэсленай калькасці вялікіх і малых радасцяў і смуткаў. Адно і тое самае здарэнне, хаця б з галіны палітыкі, адных прыводзіць у роспач, другіх — у крайняе задавальненне.

На нашым беларуска-беластоцкім панадворку ўсё як бы асталося так, як і раней. Грамадства нашае, як відаць па выніках прэзідэнцкіх выбараў, у асноўным не памяняла сваіх палітычных сімпатыяў. Дзеячы нашых традыцыйна ўжо трымаліся чорна-белага бачання свету, хаця рэчаіснасць была больш складанай. Выраслі прытым новыя пакаленні, якія ахвотна вяртаюцца да традыцый сваіх дзядоў. Адны, як заўсёды пры такой нагодзе бывае, скажуць, што гэта добра, бо будзе каму працягваць народныя традыцыі; другія — што абазначае гэта вяртанне ў скансэн, калі іншыя народы ў пошуках лепшай будучыні шукаюць новых варыянтаў вырашэння ўсялякіх сваіх праблемаў. Ёсць проста розныя меркаванні на гэту тэму.

У цэласці 1995 год для беларускай меншасці не быў найгоршы. Былі фэсты і фестывалі, ахоўвалася народная творчасць, выдаваліся новыя кніжкі і часопісы, паказалася тэлевізійная праграма на беларускай мове, а ў Беластоку пачало працу беларускае прадшколле. Не ўзнікла толькі ніводная новая арганізацыя, што, як гавораць аптымісты, можа абазначаць, што ўсе патрэбныя ўжо былі створаны раней, або, як гавораць песімісты, грамадская актыўнасць апынулася ў стане нейкага застою. Ёсць розныя меркаванні і ў гэтай справе. А усё гэта сведчыць аб тым, што з намі як нацыянальнай групай усё ў парадку. Нічым не рознімся ад іншых, якія апынуліся ў падобным становішчы.

рэд.

*Чытачам „Нівы" радасных і спакойных Калядных Свят жадае Рэдакцыя*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Rafał Ziemkiewicz w książce „Pieprzony los kataryniarza" przedstawia Polskę początku XXI w. Przed URM-em wciąż trwają manifestacje. Kombatanci podziemia z rozrzewnieniem wspominają stan wojenny. Scena polityczna dzieli się na socjaldemokratów, liberałów i sklerotycznych, skłóconych prawicowców ze Zjednoczonego Obozu Katolicko-Patriotycznego. Wszyscy się kłócą ze wszystkimi, a zgodnie uczestniczą tylko w wytwornych przyjęciach wydawanych w rezydencji namiestnika Imperium Wszechrusi.*

*Polityka, nr 50*

* * *

*Gdy wybiera się słabego prezydenta, cała władza wywalczona dla tego urzędu przez Lecha Wałęsę natychmiast odpływa do premiera. W wyniku ostatnich wyborów prezydenckich w Polsce pierwszym kanclerzem III Rzeczypospolitej został Józef Oleksy.*

*Wprost, nr 51*

Калі быў „жалезны" канцлер, чаму не можа быць „лысы".

* * *

*Ludzie dzielą się na dwie grupy: na tych, którym oficjalnie wolno zabijać zwierzęta i na tych, którzy prawa takiego nie mają. Tych pierwszych nazywa się myśliwymi bądź wędkarzami, drugich zaś — kłusownikami.*

*Nie, nr 51-52*

Пасля перамогі Квасьнеўскага Урбан займаецца этыкай і экалогіяй. Хто не верыць, хай праверыць.

* * *

*Rannych w wojnie partyzanckiej selekcjonuje się na trzy grupy — na tych, którzy i tak umrą, na tych, którzy i tak przeżyją, wreszcie na tych, którzy przeżyją, jeśli dostaną pomoc. I wszystkie mizerne środki ratunkowe idą do trzeciej grupy. Partyjkom antykomunistów, które batalia prezydencka ciężko poraniła, przydałoby się „trójkowanie", ale według innego klucza: wszystkie środki opatrunkowe dla najzdrowszych, reszta z wozu...*

*Gazeta Współczesna, nr 243*

А дзе тут хрысціянская міласэрнасць? Можа ў камуністаў?

* * *

*W niedzielę 10 grudnia, po uchwale Sądu Najwyższego, Polska obudziła się w stanie kaca i niesmaku. Sędziowie mają kaca, gdyż przyszło im wybierać mniejsze zło. Zwycięzcy mają kaca, gdyż nie mogą radować się tak jakby chcieli, ponieważ ciąży na nich sprawa owego nieszczęsnego magisterium. Kaca ma prezydent Wałęsa, którego głównym argumentem było to, że w czasie jego kadencji nie zdarzyło się nic strasznego... Kaca musi mieć hierarchia kościelna, która w czasie wyborów dała pokaz obłudy nie spotykany w Polsce od lat co najmniej pięciu. Najpierw słała listy do wiernych i omal po nazwisku wskazywała na kogo mają głosować, jednocześnie utrzymując, że nie miesza się do polityki, a później, kiedy wygrali neopoganie, utrzymuje, że Kościół nie przegrał, bo nikogo nie wskazywał, mówił jedynie o wartościach...*

*Polityka, nr 50*

Лепш ужо мець нармальнага „каца". А тут нават кіслае малако не дапаможа.

* * *

*W ukraińskim miasteczku Jasnyje Polany pracownicy służb komunalnych otrzymali zamiast pensji po dwa sedesy. Poprzednio ekwiwalentem płacy były trumny. Kryzys ekonomiczny na Ukrainie przybiera coraz bardziej zaskakujące formy.*

*Wprost, nr 51*

Украіна дасягнула ўзровень развітага „рыначнага сацыялізму".

* * *

*Andrzej Potocki, poseł Unii Wolności, zapytany co dałby w prezencie pod choinkę Lechowi Wałęsie i Aleksandrowi Kwaśniewskiemu odpowiedział: Kwaśniewskiemu podarowałby podręcznik dobrego wychowania albo Kodeks Honorowy, który jasno określa, kiedy się traci prawa honorowe. Niestety, nawet ta książka nie precyzuje, kiedy honor można odzyskać. Lechowi Wałęsie podarowałbym zaś eleganckie pudełko ołowianych żołnierzyków.*

*Polityka, nr 50*

* * *

*W dawnych czasach pewnym kategoriom ludzi trudno było ścierpieć dyshonor. Zabijali się więc oficerowie zbesztani przez dowódcę przed frontem wojsk. W łeb strzelali sobie kupcy, którzy przywiedli firmę do bankructwa i nie mogli zwrócić pieniędzy dłużnikom. Brak odpowiedzi na zniewagę, udowodnione kłamstwo, a choćby niesolidność w prowadzeniu interesów — to sytuacje, których starano się unikać za wszelką cenę, bo żyć w ich cieniu było również trudno. Dezaprobata dla kłamstwa, niesolidności, dla utraty godności — stanowiły czynniki bardzo ważne w umowie społecznej.*

*Gazeta Wyborcza, nr 292*

Гледзячы на сённяшнюю эліту, цяжка паверыць, што калі-небудзь існавала штосьці такое як гонар, саліднасць, павага для праўды.

* * *

*Wielka kariera polityczna Władimira Żyrinowskiego zaczęła się w 1991 r., kiedy w wyborach prezydenckich zajął trzecie miejsce za Jelcynem i Ryżkowem. Jego program był wtedy bardzo skromny — postulował on tylko obniżenie cen wódki. Od tej pory wywołuje kolejne skandale proponując zaskakujące rozwiązania palących problemów Rosji. Raz przestrzegał rodaków przed hordami Belgów, którzy mogą zalać Rosję, innym razem żądał podboju Finlandii i Polski. Niedawno zaproponował włoskiej porno-gwieździe, że zrobi jej dziecko.*

*Gazeta Współczesna, nr 245*

Эліта не кожнай краіны можа ганарыцца клаўнам такога класа.

* * *

*Badania statystyków wskazują, że od kilku lat w województwie białostockim, podobnie jak w całym kraju, spada liczba urodzin.*

*Kurier Poranny, nr 292*

Выснова простая: спыніць імпарт прэзерватываў! Айчынная прадукцыя ні ў чым дэмаграфіі не пагражае.

* * *

*„Wielodzietni, łączcie się" — rzucił hasło poseł Julian Braun z Unii Wolności, proponując utworzenie parlamentarnej grupy wielodzietnych. Aby przystąpić do grupy, trzeba mieć przynajmniej czworo dzieci. W grupie wielodzietnych ojców prym wiodą posłowie PSL i Unii Wolności. Jednego wielodzietnego znaleziono również w BBWR. Jeden z posłów PSL może poszczycić się ośmiorgiem dzieci.*

*Gazeta Wyborcza, nr 295*

Паслы з правінцыі, у якіх ёсць добрыя суседзі, маюць найбольшы шанц на членства ў новым клубе.

# З МІНУЛАГА ТЫДНЯ

У першым пасланні да народа новаабраны прэзідэнт **Аляксандр Квасьнеўскі** заклікаў грамадства да супольнай працы на карысць Польшчы. Палітычнымі прыярытэтамі сваёй прэзідэнтуры палічыў ён інтэграцыю Польшчы з еўрапейскімі структурамі і далейшае гаспадарчае і цывілізацыйнае развіццё краіны. Сказаў ён, што ў час сваёй прэзідэнтуры будзе кіравацца прынцыпам перагавораў, дыялогу, а круг яго саветнікаў і супрацоўнікаў будзе адкрыты для прафесіяналаў усіх палітычных груповак, якія захочуць супольна працаваць дзеля дабра Польшчы. Наконт адносін паміж дзяржавай і касцёлам сказаў ён, што ў гэтай галіне неабходнае супрацоўніцтва і сур'ёзны, канкрэтны дыялог. Падчас урачыстай прысягі перад дэпутатамі Сейма і Сената пад будынкам парламента дэманстравала каля 2 тысяч працаўнікоў новага прэзідэнта.

**Прэм'ер-міністр Юзэф Алексы** ў апошнія дні прэзідэнтуры **Леха Валэнсы** быў абвінавачаны міністрам унутраных спраў **Анджэем Мільчаноўскім** у шпіёнстве на карысць Расеі. Дакументы ў гэтай справе міністр перадаў Вярхоўнай вайсковай пракуратуры на разгляд. Прэм'ер у сваю чаргу заявіў, што ён ніколі не быў нічыім агентам, а ўсю справу палічыў бруднай палітычнай правакацыяй. Сейм для вывучэння згоднасці з правам дзеяняў МУС стварыў адмысловую камісію з 12 чалавек, якія прадстаўляюць усе парламенцкія клубы.

Сеймавая надзвычайная камісія па вывучэнні дзейнасці Міністэрства ўнутраных спраў звярнулася да прэм'ер-міністра **Юзэфа Алексага** з патрабаваннем паўстрымацца ад кадравых змен у гэтым ведамстве. У выдадзеным камюніке камісія заклікала шэфа ўрада не мяняць кіраўніцтва гэтага міністэрства і УОП, паколькі магло б гэта выклікаць уражанне, што кадравыя змяненні накіраваны супраць тых асоб, якія збіралі кампрамат наконт уяўнага супрацоўніцтва прэм'ера з расейскай разведкай. Камісія з непакоем успрыняла адстаўку віцэ-міністра Генрыка Ясіка, які прымаў удзел у акцыі збірання матэрыялаў супраць прэм'ера і якому напярэдадні адыходу ў адстаўку прэзідэнт Лех Валэнса прысвоіў генеральскае званне.

**У Варшаве 21 снежня 1995 г.** у сядзібе Праваслаўнай мітраполіі адбыўся чарговы Сабор епіскапаў Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. Архіпастыры абмеркавалі важнейшыя справы духоўнага жыцця і падпісалі святочнае пасланне да ўсіх вернікаў.

**У Бандарах** Таварыства прыяцеляў дзяцей арганізавала святочны адпачынак для бедных сем'яў. Гэтай формай сацыяльнай дапамогі пакарысталіся каля 100 сем'яў з Беласточчыны. ТПД сарганізуе яшчэ такі адпачынак у час зімніх канікул, якія на Беласточчыне будуць працягвацца з 12 па 24 лютага г.г.

**Калядна-навагодні перыяд** паўплываў на змяншэнне руху на ўсходніх пагранічных пераходах. На 80% зменшылася колькасць перасякаючых мяжу з Літвой і Беларуссю ў паўночна-ўсходняй частцы краіны. Упершыню ад многіх месяцаў не было чэргаў па абодвух баках мяжы.

**11 таксафонаў** было поўнасцю ўкрадзеных на Беласточчыне ў трох першых кварталах мінулага года. За гэты час сувязісты зарэгістравалі 2,5 тысячы розных пашкоджанняў тэлефонных аўтаматаў агульнага карыстання вартасцю ў 95 тысяч злотаў. У Беластоцкім ваяводстве працуе 950 таксафонаў.


## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У "НІВЕ"

> Абраднасць Шчодрага вечара.

> Ці ёсць у Літве беларусы.

> Ці будзе агульнаеўрапейскае грамадзянства.

> Моладзь пратэстуе супраць жартаў.




# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

## Неўзабаве першая сесія

19 снежня 1995 г. адбылося пасяджэнне Цэнтральнай выбарчай камісіі, якая зарэгістравала дэпутатаў Вярхоўнага Савета XIII склікання, выбраных 10 снежня, а таксама вызначыла на 9 студзеня 1996 г. першую сесію новага парламента.

## Фарміраванне апазіцыі

20 снежня 1995 г. у Менску адбылася сустрэча дэпутатаў Вярхоўнага Савета XIII склікання, якія стаяць на пазіцыях дзяржаўнасці і незалежнасці, а таксама дэмакратычнага шляху развіцця Беларусі. Сярод іх вядомыя палітыкі: Станіслаў Шушкевіч, Генадзь Карпенка, Станіслаў Багданкевіч, Віктар Ганчар, Васіль Шлындзікаў і іншыя. Дэпутаты заснавалі парламенцкую фракцыю „Грамадзянскае дзеянне", якую ўзначаліў Станіслаў Багданкевіч. На пасяджэнні разглядаліся пытанні падрыхтоўкі да першай сесіі новага парламента, а таксама тактыка дзеяння падчас выбараў кіраўніцтва ВС. Да фракцыі з 16 парламентарыяў выказалі жаданне далучыцца некаторыя дэпутаты ад Аграрнай партыі і камуністычнай фракцыі новага парламента, а таксама незалежныя дэпутаты.

## Беларусь умовы выканае

Беларусь у поўным аб'ёме выканае абавязацельствы па дагаворы аб звычайных узброеных сілах у Еўропе, нават калі Расія адмовіцца выконваць умовы дагавора, — заявіў міністр замежных спраў рэспублікі Уладзімір Сянько. Паводле яго слоў, Беларусь у асноўным ужо выканала ўмовы міжнародных дамоўленасцяў як па вывадзе з тэрыторыі рэспублікі ядзерных ракет стратэгічнага прызначэння, так і па знішчэнні звычайных узбраенняў.

## Экспартныя елкі

Некалькі чыгуначных вагонаў даволі незвычайнага грузу адправіў Пінскі лесгас у суседнюю Польшчу. Аб'ектам экспартнай здзелкі сталі навагоднія елкі, вырашчаныя на спецыяльных плантацыях, дагледжаных па тэхналогіі без удзелу ручной працы. Адносна невысокі сабекошт дазволіў пінскім леснікам заключыць выгадны кантракт у Польшчы.

## Новая школа

Фонд Сораса і Міністэрства адукацыі і навукі арганізавалі навукова-метадычны семінар „Новая школа". Ён з'яўляецца часткай праекта падтрымкі навучальных устаноў новага тыпу. На семінары ў прыватнасці абмяркоўваліся праблемы гуманітарнай падрыхтоўкі ў навучальных установах новага тыпу. З 1996 г. плануецца адкрыць пяць такіх школ па наступных напрамках: музычны, эканамічны, гістарычны, праваназнаўчы і школа дырэктараў.

## Спектакль пра Буднага

Пра падзеі чатырохсотгадовай даўнасці апавядае новы спектакль Тэатра беларускай драматургіі „Вольная сцэна" *Брат мой Сымон*, прэм'ера якога адбылася ў сталіцы Беларусі 17 снежня мінулага года. Падставай да яго стварэння стаў аўтэнтычны лёс знакамітага філосафа, вучонага і рэфарматара XVI стагоддзя Сымона Буднага. У галоўных ролях выступаюць Алег Гарбуз, Таццяна Мархель, Таццяна Жыхаўская, Ігар Сігоў і Мікалай Рабычын.

## Гандаль дзецьмі

Незаконна перайсці заходнюю мяжу паблізу Брэста, у тым ліку і пры дапамозе фальшывых пашпартоў, у апошнія гады спрабуюць немала так званых нелегалаў. Аднак упершыню брэсцкія пагранічнікі папярэдзілі вываз за рубеж па падробных дакументах непаўналетніх дзяцей. Прозвішчы дзвюх дзяўчынак васьмі і дзесяці гадоў былі ўпісаны ў пашпарт адной падарожніцы ў якасці яе родных дачок. Падарожжа чужой мамы і дзяцей было спынена. Гісторыя гэта не столькі незвычайная, колькі драматычная, — лічыць намеснік камандзіра атрада Пагранічнага кантролю ў Брэсце Сяргей Шарамецеў. Па яго глыбокім перакананні, нельга ўстанавіць сапраўдную мэту гэтай паездкі. Дзяцей вывозяць за мяжу для трансплантацыі органаў, забору касцявога мозгу, вырабу вострадэфіцытных лекаў.

## Перавыкананы план

За 11 месяцаў мінулага года ў Гомельскай бальніцы хуткай дапамогі пабывала столькі ж пацыентаў, якія атруціліся спіртнымі напіткамі, колькі за ўвесь 1994 год. Асабліва павялічылася колькасць тых, якія лічаць за лепшае ўжываць сурагаты і самагонку. Дарэмна, амаль кожны тыдзень, мясцовыя сродкі масавай інфармацыі паведамляюць аб выяўленні ў горадзе падпольных гарэлачных заводаў, у прадукцыі якіх утрымліваецца вельмі вялікая колькасць сівушнага алею, метылавы спірт, атрутныя альдэгіды, складаныя эфіры і розная брыдота. Аднак напярэдадні Новага года гандляры самагонам і гарэлкай уласнага разліву шарэнгамі атакуюць пакупнікоў на рынку і ў іншых людных месцах горада. Іх хадавы тавар знаходзіць попыт, паколькі ліхадзейка з наклейкай у бабуль і цётак каштуе намнога менш, чым у гандлёвых прадпрыемствах.



**Гутарка з Міколам Бушко, дырэктарам Гайнаўскага дома культуры, пра Міжнародны фестываль царкоўнай музыкі.**

# Ад Амерыкі да Арменіі

*— У апошнія гады прозвішча Мікола Бушко асацыіруецца многім з Фестывалем царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы. Ты, Мікола, з'яўляешся яго галоўным арганізатарам.*

— Галоўным арганізатарам фестывалю з'яўляецца Гайнаўскі дом культуры. А я, раз, — яго дырэктар, два — гэты фестываль прыдумаў, ну, і так вось цягну.

*— Сёлета, у днях 19—26 мая, адбудзецца юбілейны, пятнаццаты Фестываль царкоўнай музыкі. На працягу гэтых гадоў Гайнаўка прыняла 236 вясковых і гарадскіх хораў з Польшчы і з-за граніцы. Былі тут хоры царкоўныя і свецкія, аматарскія і прафесіянальныя.*

— Так, гэта былі хоры амаль з цэлага свету — ад Амерыкі да Арменіі, а сёлета будуць, магчыма, госці і з Афрыкі. Наогул запрашаем па адным хоры з кожнай краіны, але Беларусь, вядома, трактуем інакш. Былі адтуль хоры Роўды, Шырмы і шмат іншых дасканалых.

*— Ці хоры ахвотна прыязджаюць на гэты фестываль?*

— Што там Гайнаўка! — гаварылі некаторыя. Прафесар Уладзіслаў Чарнышэнка з Санкт-Пецярбурга аж расплакаўся, калі расказваў мне пра гэта. Мы, казаў, „ехали в какую-то деревеньку, а здесь такой фестиваль!" Армяне два гады таму ехалі сем сутак, але прыехалі. Ды і вярталіся дзевяць сутак. А грузіны, народ спрытны, ехалі праз Турцыю, каб было хутчэй.

*— Вы ў доме культуры выпускаеце касеты з фестывальнымі запісамі.*

— Так! Ужо дзесяць гадоў. Касеты з Фестывалю царкоўнай музыкі паяўляюцца на другі дзень пасля канцэрта. Выпусцілі таксама адзін кампакт-дыск.

*— На якой мове співаюць хоры?*

— У асноўным на царкоўнаславянскай, але эстонцы, амерыканцы, чэхі і іншыя спяваюць таксама на сваёй мове.

*— Пачаўся новы год. Як выглядае на сёння праца над фестывалем?*

— Мы над ім працуем цэлы год, але асабліва інтэнсіўна — ад студзеня. Трэба ж сыграць некалькі спраў: удзельнікі, публіка, арганізацыйны штаб і... фінансы.

*— Нядаўна ты, Мікола, вярнуўся з Ізраіля. Ці і там ты нешта „мантаваў"?*

— Галоўнай мэтай маёй паездкі былі справы, звязаныя з распаўсюджаннем ідэі фестывалю, і спробы дайсці да асяродкаў, у якіх выконваецца царкоўная музыка. Святая Зямля — гэта Іерусалімскі патрыярхат. Мне не давялося гутарыць з самім патрыярхам Дыядорам І, бо ён быў хворы. Аднак жа я быў на аўдыенцыі ў яго наменіка, мітрапаліта Васілія. Абодва яны — грэкі.

Мне пашанцавала ўзяць удзел у паломніцтве на Святую Зямлю, якое благаславіў і ў якім прымаў асабісты ўдзел архіепіскап Сава. Дзякуючы яму ўсе дзверы для мяне там былі адкрытыя. А я шукаў тое, што мне трэба, — дзе толькі магчыма.

*— То і ў Ізраілі ёсць праваслаўе?*

— Я ўжо раней ведаў, што ў Ізраілі жывуць праваслаўныя, але не ўяўляў сабе, што іх там так многа.

*— І гэта яўрэі?*

— Праваслаўная царква там шматнацыянальная. Многа арабаў, грэкаў, эфіопцаў і рускіх — з Маскоўскага патрыярхату і з зарубежнай царквы, якая не прызнае Маскоўскай патрыярхіі.

Ад 70-х гадоў у Ізраіль выехала 450 тысяч рускіх яўрэяў, сярод якіх значны працэнт гэта не яўрэі, а члены сем'яў і тыя, што прыехалі за заробкамі.

Сярод эміграцыі я сустракаў там праваслаўных людзей, якія не ведалі, што на месцы ёсць Руская праваслаўная царква. У Грэчаскай праваслаўнай царкве мяне пыталі некаторыя, ці ёсць тут такая царква. Паколькі Святая Зямля гэта калыска хрысціянства, дык там сустрэнеш прадстаўнікоў усіх адгалінаванняў хрысціян. Сустракаў я там людзей і з Аўстраліі, і з Амерыкі, і з іншых краін. Але не было месца, дзе б я не сустракаў рускіх. Калі ведаеш рускую мову — дык там не прападзеш. „Не скучаете по России?" — пытаў я часам. „Ну, что вы, конечно скучаем!" — адказвалі яны.

*— Але табе ў Ізраілі перш за ўсё былі патрэбны акрэсленыя кантакты!*

— Так, я ведаў, што там, дзе ёсць праваслаўныя прыходы, манастыры, тэалагічныя школы ў Ізраілі, там ёсць і хоры.

Высветлілася, што я не еду ў цалкам чужую краіну. У далёкай і блізкай Кане Галілейскай архімандрыт праваслаўнага манастыра, у якім перахоўваюцца два з шасці посудаў, у якіх Ісус Хрыстос замяніў ваду на віно, — чуў пра Гайнаўскі фестываль.

*— Уяўляю сабе, якую сатысфакцыю ты адчуў у той момант!*

— Вядома! Мару пра тое, каб Гайнаўка пачула хор з Каны. Мяне наогул здзівіла, што большасцю святых месц, такімі, як, напрыклад, Віфлеемскія Яслі, Гроб Гасподні, Галгофа і г.д., апякуюцца праваслаўныя.

*— Ці можна было б сказаць, што ты рэалізаваў мэты, якія ставіў сабе перад паездкай у Ізраіль?*

— Канкрэтна: я дайшоў да тых асяродкаў, на якія можна разлічваць у фестывалі. Усюды, дзе мог, я стараўся распаўсюджваць ідэю Гайнаўскага фестывалю царкоўнай музыкі, пакідаў матэрыялы і заахвочваў прыехаць і паспяваць у нас. Мітрапаліт Васілій быў зацікаўлены фестывалем, хаця прасіў яшчэ пісьмова звярнуцца да патрыярха, што мы і зрабілі. Цяпер чакаем водгуку.

*— Якія прымеркі робіце да сёлетняга фестывалю?*

— Паколькі будзе гэта юбілейны фестываль, дык хацелася б паказаць нашых ранейшых лаўрэатаў, хаця не толькі. Знойдзем месца і для новых калектываў. Мяркуем, што кожны дзень выступіць па 6—7 хораў.

*— Якія гэта будуць хоры?*

— Хочам, каб абавязкова паказаліся хоры з Санкт-Пецярбурга (капэла прафесара Уладзіслава Чарнышэнкі!), з Менска (славуты хор прафесара Віктара Роўды), з Масквы, Балгарыі, Фінляндыі, Злучаных Штатаў. Вядзем перапіску з Кіпрам і Кеніяй.

Лічым таксама, што прыедуць найлепшыя польскія хоры, як хор а. Юрыя Шурбака з Варшавы, ці з Беластока — як хоры, якія вядуць а. Васіль Дубец ці а. Аляксандр Лысынкевіч, або адзін з найлепшых акадэмічных хораў — хор Медыцынскай акадэміі. Ну, і, вядома, хор гаспадароў Фестывалю — гайнаўскі хор а. Міхася Нігерэвіча, настаяцеля Гайнаўскага прыхода.

Я быў бы вельмі задаволены, калі б паказаліся ў нас царкоўныя хоры беларускай дыяспары Злучаных Штатаў, Канады і Аўстраліі.

*— Чаму ты „прыдумаў" менавіта такі фестываль?*

— Калі тут жывуць праваслаўныя, дык натуральнай патрэбай было стварэнне фестывалю.

*— Дзякую за размову, зычу здзяйснення ўсіх тваіх мараў і вясёлых свят!*

— І вам усім у рэдакцыі таксама.

**Гутарыла і фатаграфавала Ада Чачуга**

# ТРАГІЧНАЯ ВЫПАДКОВАСЦЬ

Ідуць святы. Для большасці грамадства гэта пара, якая неразлучна асацыюецца з ліхаманкай пакупкаў, пажаданнямі, падарункамі, святочнай прыўзнятасцю настрою. Не ўсім аднак. Але, наўрад ці дажывем мы такой пары, калі тое ці іншае свята будзе парою агульнаграмадскай прымірэнасці.

У снежні 1994 года Каляду не дачакаўся 29-гадовы жыхар Гайнаўкі Ян С. Памёр ён 6 снежня ў час транспарту хуткай дапамогай на хірургічны аддзел. У час абследавання ў бальніцы хірургі выявілі ў яго сем ранаў на спіне — праўдападобна ад нажа. Дзве з гэтых ранаў пранікалі ў лёгкія, што і было непасрэднай прычынай смерці.

Роўна праз год, бо 21 снежня 1995 года, беластоцкі суд прыняў у справе смерці Яна С. рашэнне — абвінавачаны ў забойстве Яна С. Пятро В. засуджваецца на трынаццаць гадоў турмы. Як выявілася ў ходзе расследавання справы, Пятро В. не ведаў Яна С.

Пятру В. 24 гады. Жыў ён у адной з вёсак Гайнаўшчыны. У Гайнаўку прыехаў 5 снежня 1994 года, дзе запыніўся ў свайго знаёмага Вальдэмара Б. на вул. Арміі Краёвай. Там жа Пятро В. правёў ноч з 5 на 6 снежня. Раніцай падаўся ён у раённае бюро працы, дзе ўзяў грашовую дапамогу па беспрацоўю. За грошы гэтыя купіў сабе куртку, нагавіцы і чаравікі. Апоўдні Пятро В. вярнуўся ў кватэру Вальдэмара Б., дзе было ўжо некалькі чалавек, а ў іх ліку і брат Пятра В. Усе прысутныя сталі выпіваць — піва, віно, разведзены спірт. У час выпіўкі ўзнікла спрэчка — Пятро В., як кажуць, даў па зубах свайму брату. Каля 18 гадзіны Пятро В. у суправаджэнні аднаго кампаньёна выйшаў на горад. Абодва заходзілі да знаёмых жанчын — у першай з іх прабылі нейкае паўгадзіны, а другая (на вул. Варшаўскай) не пусціла іх у кватэру. Абодва зайшлі да Ежы С., што жыў у тым самым блёку. Ежы С. быў п'янаваты. Усе сталі піць віно, якое прынеслі Пятро В. і кампаньён. Зноў была спрэчка — Пятро В. стукнуў гаспадара кватэры, пасля чаго выйшаў ён са сваім кампаньёнам і абое зайшлі ў бар пры вул. 3 Мая. У бары аднак адмовілі падаць піва для кампаньёна Пятра В. Ён і выйшаў з бара, пакідаючы Пятра аднаго.

Пятро В. узяў адно піва і дасеўся да століка, за якім ужо сядзелі Казімір П. і Ян С. Пятро запрапанаваў ім выпіць віно, якое меў з сабою, але тыя адмовіліся, маўляў, тут нельга піць свайго алкаголю. Пятро В. дапіў сваё піва і ўзяў яшчэ па адным для ўсіх трох. Пра што ішла гутарка за сталом, суд гэтага не высветліў, але вядома, што Пятро В. ведаў Казіміра П. раней. Якіхсьці пяць хвілін пасля 22 гадзіны Пятро В. развітаўся і выйшаў з бара...

Паводле Пятра В., Казімір П. і Ян С. неўзабаве выйшлі. Яны дагналі яго і напалі, дамагаючыся грошай. У час бойкі Пятро В. меў паваліцца на зямлю і дастаць з-за пазухі нож, якім навобмацак адбіваўся ад напаўшых.

Паводле Казіміра П., Пятро В. чакаў іх на тратуары. Казімір П. праводзіў Яна С. дадому на вул. Арміі Краёвай. Калі яны праходзілі міма Пятра В., той ізноў запрапанаваў ім выпіць віно. Пятро В. меў дастаць з торбы буталь, адбіць аб сетку жалезнай агароджы рыльца і стаць яго піць, падаючы затым буталь Казіміру П. Казімір П. піць не захацеў, адкідаючы буталь у бок агароджы, а затым рушыў далей з Янам С. Пятро В., паводле Казіміра П., дагнаў іх, нанесучы адзін удар нажом у спіну Яна С., а затым спрабаваў нанесці некалькі ўдараў у яго самога. Казімір П. спрабаваў адабраць Пятру В. нож. У гэтым часе Ян С. кінуўся ўцякаць у кірунку свайго блёка на вул. Арміі Краёвай. Бачачы гэтае, Казімір П. таксама стаў уцякаць...

Пасля ўсяго гэтага Пятро В. вярнуўся ў кватэру Вальдэмара Б. Ён увайшоў, — паказаў пазней Вальдэмар Б., — трымаючы ў руцэ нож. Гэты ж нож я ўзяў ад яго і прыхаваў у кветніку, баючыся, каб Пятро нічога ім не зрабіў.

Абаронца Пятра В. прытрымліваўся ў судзе варыянту, паводле якога абвінавачаны дзейнічаў у абароне сваёй асобы. Вядома ж, — сказаў абаронца, — абвінавачаны далёка перабраў меру г.зв. неабходнай абароны, але не было ў яго намерах пазбавіць жыцця кагонебудзь.

Такому тлумачэнню суд веры не даў. Паводле экспертаў судовай медыцыны практычна неверагодна, каб сем ранаў, якія меў Ян С., нанесці навобмацак, адбіваючыся нажом. Супярэчлівасць паміж сямі ранамі Яна С., а адным ударам у спіну Яна С., які бачыў Казімір П., суд растлумачыў наступным чынам.

У час, калі Казімір П. бараніўся, прабуючы адабраць у Пятра В. нож, Ян С. стаў уцякаць у бок свайго дома на вул. Арміі Краёвай. У далейшым і Казімір П. кінуўся наўцёкі, а Пятро В. вярнуўся ў кватэру Вальдэмара Б. на вул. Арміі Краёвай. Абодва, Ян С. і Вальдэмар Б., жывуць недалёка ад сябе. Суд уважае, што Пятро В., вяртаючыся ў кватэру, ізноў сустрэў Яна С. і там... **даканчылася ўсё здарэнне.**

Суд не згадзіўся таксама з аргументацыяй пракурора, які дамагаўся пакарання абвінавачанага за наўмыснае забойства. Расследаванне выявіла, — гаварылася ў апраўданні прысуду, — што трагічнага дня ўсе спажывалі алкаголь, а пад яго ўплывам абвінавачаны стаўся асабліва імпульсіўны. Суд не знаходзіць асноў, каб лічыць, што Пятро В. усё сабе задумаў раней. У справе гэтай больш выпадковасці, чымсьці свядомага намеру.

**Аляксандр Максімюк**

У кіпцюрах цецерука

# Eastern

Веру паэтам. Калісьці я не верыў, думаў — гэта толькі ветрагоны і рамантыкі, а цяпер веру. Хіба ж гэта не паэт сказаў: „Столькі ў нас дзяцінстваў, колькі мы разоў завітвалі дамоў"?

Маё дзяцінства вяртаецца заўсёды, калі толькі перасякаю магічную мяжу між Сабачым Ярам і Сучкіным Садам. Не даязджаючы да вёскі, пакуль яшчэ ў вільготным цяні алешніку пачнуць трымцець першыя будынкі, спыняю самаход. Цырымонія, так вонкавага, як і ўнутранага пераапранання ўвайшла ўжо мне ў плоць і кроў, і не трывае доўга. Цяпер я ўжо не Анатоль Сцяпанавіч Пузыроў. Цяпер я ўжо нават не Толік. Я цяпер, як у самыя найлепшыя гады дзяцінства — Вінету.

Пераапрануўшыся, іду далей пяшком, як кожны акуратны індзеец, што прамантачыў на агністую ваду у „салуне" аднаго каня, а другога, пакуль што, яшчэ не нажыў.

Алешнік расступаецца і перад маімі вачыма, у поўнай, нязрушанай прыгажосці ляжыць запаведнік.

На ўзгорках пад лесам, дзе калісьці нашыя продкі (хай ім шанцуе ў Краіне вечных ловаў) марнатравілі час на сяўбе аўса ці жыта, дык вось на гэтых узгорках кабеты: Белая Раса, Крынічная Вада, а нават не першай ужо маладосці Восеньскае Сонейка ці Градавая Хмара, рупліва збіраюць экалагічныя зёлкі.

А зёлкі ў нас першы сорт. Адкуль вучоныя забаранілі сыпаць у зямлю салітру, аміяк ці нейкую іншую гадасць, прапаў і даўганосік, і каларадскі жук, і бялян-капуснік. Праўда, ныцікі гавораць, што раней яшчэ загінулі і жыта, і бульба, але гэта, як ведаем, людзі маладушныя і дробязныя. Зрэшты, нават наш новы доктар, пан Франак, сказаў, што калі б ён у Казахстане меў такія землі, напэўна не быў бы там слесарам, а быў бы прынамсі прафесарам медыцынскіх навук.

Так што збіраюць нашыя „скаў" зёлкі, а між імі саноўна шпацыруе белы бізон, які ў папярэднім увасабленні Мікалаевуму Алесю, даруйце, Вялікай Ступні, служыў за карову.

З натоўпу тубыльскіх вігвамаў беспамылкова вылузваю прасторны дом з надпісам „Sheriff", дзе выконвае свае службовыя абавязкі пан Ян Кулечка, раней Ваня Шарык. Помню, з прыездам пана Кулечкі і ягоных сяброў разлічвалі мы на ладныя грошы, абяцаныя нейкім сенатарам з Вялікага Горада. Нават наш галоўны Племенны Чараўнік вывараджыў гэта з канфігурацыі сухога галля на прыдарожнай ліпе. Грошы, праўда, прыйшлі, але што ж з таго, калі і разышліся на патрэбы пана Кулечкі і ягоных калегаў. Галоўны Чараўнік, хіба ад сораму, перамяніўся ў велізарнага мядзведзя грызлі. Палохае ён сёння, службова, турыстаў, а ў вольны час стружа святыя фігуркі з бярозавай драўніны. А мы? Мы адчуваем сябе як тыя хлапчукі, што абакралі гарэлачны завод, гарэлку прадалі, а грошы прапілі. У дадатак пан Ян Кулечка заявіў, што абаб'е морду кожнаму, хто яшчэ раз назаве яго Шарыкам.

І я яго разумею. У нас таксама любы шарык, калі ўжо перакоціцца ў Беласток ці Варшаву, быццам бы крануты чарадзейскай палачкай, пераўтвараецца „w kuleczkę".

А акрамя гэтага вада ў нас чыстая, трава зялёная і ўсё ў добрым здароўі.

**Міхась Андрасюк**

## Канвульсіўны канец палітычнага сезона

Два гады таму назад Ежы Урбан у сваім часопісе „Не" пісаў, што канец кадэнцыі Леха Валэнсы будзе вельмі бурлівы. Невядома на якой падставе Урбан будаваў такія высновы, але трапна прадбачыў палітычную атмасферу ў Польшчы пры канцы 1995 г. Ніхто, аднак, праўдападобна не спадзяваўся, што ў дэмакратычнай дзяржаве найважнейшыя палітыкі з такім энтузіязмам будуць кампраметаваць сваю краіну. Новаабраны прэзідэнт займае найважнейшы пост у дзяржаве, абвінавачаны судом у парушэнні закона. Стары прэзідэнт, адыходзячы, абяцае, паводле закону джунглі, „oddać tak, że aż szczęka opadnie". Неўзабаве яго супрацоўнік, міністр унутраных спраў, аб'яўў свету, што прэм'ер-міністр з'яўляецца шпіёнам суседняй краіны. Шэф урада ў адказ назваў яго правакатарам, а тайную паліцыю абвінавацію ў ўмяшанні ў палітыку. Пры нагодзе высветлілася, што прэзідэнт Валэнса не заплаціў падаткаў ад сваіх заробкаў.

У апошнія дні старога года палітычная эліта адкрыла праўду пра сябе. Была яна так скандальная, што скалыхнула грамадствам, непрывыклым да такога вобразу асоб кіруючых дзяржавай. У аўтарытарных рэжымах усялякіх Пілсудскіх, Берутаў, Геркаў прыдворная прапаганда прадстаўляла сваіх лідэраў як людзей незвычайных — разважных, далікатных, працавітых, кахаючых свой люд і айчыну. У дэмакратычнай сістэме уладу атрымлівае той лідэр, тая партыя, якія прадставяць грамадству найбольш прывабны ўласны імідж і адначасова кампраметуючы вобраз канкурэнтаў. Там, дзе ёсць нейкія дэмакратычныя традыцыі, палітычная барацьба адбываецца паводле агульнапрынятых прынцыпаў і ні ў які спосаб не парушае яна інтарэсаў дзяржавы. На ўсходзе Еўропы змаганне гэтае адбываецца без акрэсленых правілаў, а уладу — найчасцей выпадковым людзям — дае сфрустраванае грамадства, якое кіруецца перш за ўсё ўражаннямі і эмоцыямі. Адтуль столькі цынізму і варварства ў паводзінах палітыкаў падчас кожных выбараў. Але найважнейшае, каб не паўтарыліся трыццатыя гады, калі ўсялякія авантурысты, выкарыстоўваючы кампраметацыю дэмакратычных устаноў, пры дапамозе розных метадаў устанаўлялі дыктатуры ў чарговых краінах Еўропы. Праз пару гадоў грамадзяне Польшчы, Беларусі ці Расіі пачнуць думаць інакш, але ці будуць яшчэ мець магчымасць быць крыніцай улады?

**Я. М.**

# „Роднае слова" ў Нарве

19 снежня 1995 года ў Пачатковай школе ў Нарве адбыўся гмінны агляд дэкламатарскага конкурсу „Роднае слова". Удзельнічала ў ім дваццаць вучняў са школ у Нарве, Крыўцы, Ласінцы і Трасцянцы. Рыхтавалі іх да конкурсу настаўніцы беларускай мовы: Ніна Абрамюк, Валянціна Назарук і Вольга Галавачык (ПШ у Нарве), Надзея Міхальчук (ПШ у Крыўцы), Валянціна Базылюк (ПШ у Ласінцы) ды Анна Мінько (ПШ у Трасцянцы).

Дэкламатары з класаў II—V цягнулі жэрабя з псеўданімамі ад назваў кветак ды лекавых раслін (для прыкладу, браткі, васілёк, касач, ландыш, лілея, лотаць, мак, пралеска, рамонак, ружа), а з класаў VI—VIII — ад назваў дрэў (бяроза, вярба, дуб, елка, ліпа, сасна, яблыня).

Журы ў складзе: Тамара Русачык (старшыня), Яланта Тачко і Янка Целушэцкі адобрыла такую інавацыю (вучні выступілі інкогніта). Іх прозвішчы былі расшыфраваны толькі пасля рашэння конкурснай камісіі.

Сярод вучняў старэйшых класаў першае месца заняла Эвеліна Кучэўская, вучаніца VII класа Пачатковай школы ў Нарве. Яна дэкламавала „Урывак з незакончанай паэмы" Ларысы Геніюш. Два раўнапраўныя другія месцы занялі Анна Буслоўская, вучаніца VIII класа ПШ у Трасцянцы і Мажэна Мінько, вучаніца VII класа ПШ у Ласінцы ды трэцяе месца — Анна Антанюк, вучаніца VII класа ПШ у Трасцянцы.

Сярод малодшых вучняў вылучыліся: Павел Грынявіцкі (вучань III класа), Дыяна Яканюк (вучаніца IV класа) і Эва Русіновіч (вучаніца II класа) — усе з Пачатковай школы ў Нарве. Усе яны занялі тры раўнапраўныя першыя месцы.

Два раўнапраўныя другія месцы заваявалі Анна Шарэйка, вучаніца IV класа ПШ у Нарве ды Марта Монах, вучаніца V класа ПШ у Ласінцы. Трэцяе месца журы прызнала Бэаце Мінько, вучаніцы IV класа ПШ у Ласінцы.

Былі таксама вылучэнні для Асі Кананюк, вучаніцы III класа ПШ у Крыўцы і для Паўліны Пашко, вучаніцы III класа ПШ у Ласінцы.

Варта адзначыць, што моладзь была добра падрыхтаваная. Конкурс адбываўся ў патанаючай у кветках зале з ёлкай. Адзін з нарваўскіх настаўнікаў сфатаграфаваў юных удзельнікаў вышэйзгаданага мерапрыемства. Свае вершы дэкламавала Аня Садоўская, вучаніца VII кл. ПШ у Нарве. Яна дасылае свае творы ў „Зорку".

Спонсарамі ўзнагарод ды абеду для ўсіх удзельнікаў былі дзве мясцовыя фірмы: „Пронар" з Нарвы і „Рольмак" з Макаўкі.

Раённыя элімінацыі дэкламатарскага конкурсу для вучняў пачатковых школ адбудуцца: 23 студзеня 1996 года ў Бельску-Падляшскім і 25 студзеня — у Гайнаўцы. Цэнтральнае мерапрыемства запланавана на 30 студзеня 1996 года ў Нарве.

**Янка Ляўкоўскі**

*Віктар Ярмалковіч*

# На хвалях жыцця

*(працяг; пачатак у 41 н-ры за 1995 г.)*

### У варшаўскіх і легніцкіх саветаў

Была нядзеля. Раніцай убоўцы прывялі нас у нейкую браму на Празе, а пазней увялі ў прасторны пакой. Сталі там канапы і мяккія крэслы, сядзелі савецкія салдаты. Доўга яны спрачаліся з убоўцамі і лаялі іх за тое, што не даюць ім спакою нават у свята.

Каля поўдня прыйшоў нейкі начальнік, здаецца ў чыне капітана, і са злосцю звярнуўся да мяне: „Ты што, думаў што мы вайну прайграем і не вернемся?" — „Я не вайсковец і ваеннай стратэгіяй не займаўся", — сам не ведаючы чаму, сказаў я нечакана. Гэта раздражніла капітана яшчэ больш. „У падвал з ім", — прахрыпеў.

Вывелі мяне з пакоя. Праз панадворак завялі ў падвал. Там зараз жа акружылі мяне малойчыкі з нажамі ў руках. „Рэзаць будзем", — гаварыў адзін з іх. „Страляць будзем", — гразіў другі, паказваючы на нейкае самаробнае ружжо, якое стаяло ў куце.

Моўчкі прыглядаўся я ім. „Што ж зробіш, — думаў я, — што будзе, то будзе". Не рэзалі мяне і не стралялі, але затое паадрэзвалі ўсе гузікі ў адзенні. Трымаючагася за штаны, адвялі мяне ў камеру. Было гэта вельмі доўгае памяшканне з цэментнай, павыбіванай падлогай. Каменна-цагляныя сцены былі брудныя і вільготныя. Угары свяцілася адно закратаванае акенца з паразбіванымі шыбамі. Каля сцяны стаялі адны драўляныя нары.

Скурчыўшыся ад холаду, я прысеў на гэтыя нары. Да ваконца ў дзвярах падышлі салдаты. „Ты паглядзі, — гаварылі адзін аднаму, — вось сапраўдны, польскі пан". Калі яны адышлі і стала ціха на калідоры, у дзвярах зноў адчынілася акенца. „Ты кушать хочешь", — пытаў нейкі салдат, мабыць, кухар. Растрэсены і прыбіты зваліўшайся на мяне бядой, я адмовіўся. „Ты всё-таки кушай", — намаўляў ён далей.

У камеру падаслалі яшчэ двух. Абодва былі з Беларусі. Спалі мы ўтрох на адных нарах; двух клаліся ў адзін бок, а трэці — пасярэдзіне ў адваротны. Так было цяплей. Зрэшты, інакш спаць было нельга.

Прайшло некалькі дзён. Пачалі нас выклікаць на допыты. Загадвалі распранацца, праглядалі і прашчупвалі адзенне. Аднойчы ўсіх вязняў, больш за дваццаць чалавек, пасадзілі ў грузавую машыну. Прыселіся салдаты. „Лапаты ўзялі?" — пыталі іх саслужыўцы, якія заставаліся на месцы і, лаючыся, падавалі ім рыдлёўкі ў кузаў. Машына скранулася з месца. За намі застаўся горад. Ніхто не ведаў, куды нас вязуць.

Спыніліся мы каля нейкай чыгуначнай пабочнай веткі, на якой стаяў таварны вагон з вуглем. У машыну, на якой прыехалі, перагрузілі мы вугаль, а ў пусты вагон салдаты загрузілі нас. Загадалі нам памясціцца ў адной палове вагона. У другой частцы пасяліліся салдаты, якія нас пільнавалі. Атрымалі мы па кавалку салёнай рыбы і збанок вады на ўсіх.

Прыйшла ноч. Вагон падчапілі да паравоза. Усе мы былі перакананы, што вязуць нас на ўсход. Пачало развідняцца. Адзін з вязняў, родам дзесьці з-пад Баранавічаў, доўга прыглядаўся цераз шчыліну ў вагоне. „Знаеце, — урэшце прамовіў ён, — бачу будынкі з стромкімі чарапічнымі дахамі. Нас вязуць на захад". Так было ў сапраўднасці. Каля абеду апынуліся мы на станцыі Легніца, дзе чакаў „чорны воран", які па некалькі чалавек перавёз нас у турму.

На турэмным калідоры загадалі нам стаць тварам да сцяны. Потым выклікалі па прозвішчах і забіралі. З аднаго пакоя, хіба канцылярыі, даносіліся жахлівыя словы: „расстраляць, расстраляць". Астаўшыхся назад пасадзілі ў „чорны воран", з якога нельга было нічога пабачыць. Адчувалася, што вязуць нас дзесьці цераз поле. Час ад часу, як перуны, трэскалі недзе недалёка нейкія выстралы.

Воран астанавіўся, арыштаваным загадалі выходзіць. Аказалася, што папалі мы ў нейкі маёнтак. Дом з панадворкам быў агароджаны калючым дротам. Звонку на варце стаялі салдаты. Адкрылася брама і апынуліся мы за дратамі. Аўгінню забралі аддзельна.

Тут аддыхнулі мы свабадней. Маглі прабываць на панадворку, карыстацца свежым паветрам і вясеннім сонцам.

Неўзабаве мы даведаліся, што мясцовасць называецца Краева. Стрэлы, якія даляталі да нашых вушэй, паходзілі са стрэльбішча. Словы „расстраляць" датычылі тых, якіх ад нас забіралі, пераважна вайскоўцаў, і абазначалі, што нельга іх саджаць разам, а толькі параскідаць па камерах.

У Краеве былі мы амаль тры месяцы. Два ці тры разы „воранам" вазілі нас у Легніцу. Там зноў спісвалі маю біяграфію, дапытвалі, але цяпер рабілі гэта ветліва.

У пачатку чэрвеня, здаецца дзевятага, зноў завезлі нас у Легніцу і пасадзілі ў таварныя вагоны. Цяпер ужо сапраўды ехалі мы на ўсход. Ноччу пераехалі раку Буг і вагоны спыніліся. У паблізкіх кустах не змаўкалі салаўі. Вось як, пасля шасці гадоў, прыйшлося зноў праязджаць цераз Буг.

*(працяг будзе)*

БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 432

Рэдактар: Сакрат Яновіч

*Сакрат Яновіч*

## Адзін я ў вечар калядны

Зорка па-над бацькавай хатаю апусцелай урачысціцца. Стаю на падворышчы дзяцінства свайго, у цішы паднябеснай. Снежна-снежныя далі скугольна сінеюць у месячнай бляклалацi. Дрэвы трэскаюць у маразечу, бы стрэлы паспешлівыя беластоцкіх браканьераў у Перацёсах. Чарнацяць платы ўдовіны паваленыя. І сам-самюткі я перад сусветам тхланным, халодным халадэчаю прадчуванаю. Каб хоць брэх слiністы сюды аднекуль, з ваколіцы па-касмічнаму мёртвай, да якое пушча век-вечная скрадліва падступаецца, вяртаючы сваё.

Зорка калядная зіхаціць арэолам нада мною. Няма каму паклікаць мяне Хрыста людна вітаць, Русь тут вырадзілася. Не расчыняцца цёплыя дзверы з голасам матчыным. Буду, можа, здзіўляцца самім сабою, чаму не пабег за народам тлумным у маторнае святло праспектаў гаманлівых? Застаўся я з маўклівымі ценямі продкаў па-халопску забытых. І ўсё роўна, што не вельмі каб разумна літуючыся над імі...

Айчыны шкада, хай хоць для мяне яна патрэбная.

*Алесь Чобат*

## Чорная ружа

Чорная ружа. Чорная — як цыганка.
А цыганка мне нагадала, што буду я доўга жыць...
Але які з таго толк? Тут і мала жыць вельмі гідка.
Хоць і казаў мне ксёндз, што пара жыццём даражыць.
І вось — даражу і дрыжу. Гуляю назад і наперад.
А чорная ружа з сябе не выпускае святла.
Святлей нас усіх яна.
Гоніць вецер штабныя паперы...
Божа, не дай мне дажыць, калі тут пачнецца вайна.

*Міхась Андрасюк*

## Ехалі хмары

Ехалі хмары на снежных конях,
вецер у грывах танцаваў ім дзіка,
з-за хмарак месяц срэбным промнем
зоркі-дзяўчыны на музыкі клікаў.

Сосны-мужычкі ў беленькіх кажухах
чаргою стаялі ля дарогі соннай.
На скрыпцы йграла вярба-гаваруха
і танцавалі грабы непрытомна.

У полі таполі мароз папутаў
і так драмалі, згорбіўшы плечы,
з ялінаў зялёных выліўся смутак,
скрыпелі косці дубовай старэчы.

*

У Белавежы зіма-каралева
расселася задам шырокім пад івай.
Сыпнуўшы срэбрам направа і налева
поіць горла гарэлкай і півам.

*Юрка Зубрыцкі*

## На развароце

У зоркавай зроены гонцы,
Скаваны інертным вітком,
Мы ўсе спадарожнікі Сонца,
Трасёмся адным чаўнаком.

Парыпвае капсула хілая
На разваротах крутых.
— Куды трасецеся, мілыя?
— А сам ты трасешся куды?



**Мал. Міколы Давідзюка**

*Мікола Яцкоў*

## Успамін дзяцінства

Зіма. Завея. Снег на даху.
І чорны вецер за акном.
Жах забіраецца пад паху
і спіць, скруціўшыся клубком.

А нехта ў коміне спявае —
аднекуль, мабыць, заляцеў
і твар у поцемках хавае
ў тым закураным куце...

*Паўла Саўчанка (1887—1920)*

* * *

Я апошняя ўсмешка зоркі,
Парамажанай смехам
Маладога,
Залатога,
Светлалобага дня.

Я ціхенькі, поўны скаргі,
Паміраючы водгалас,
Цалавання
На развітанне
Дзвюх закаханых сэрц.

Я ў нейкай паэме-казцы,
З ласкі якогасьці аўтара,
Неабходны,
З усім згодны
Элегійны эпілог.

*3 снежня 1912 г., Дзеркачы.*

*З украінскай мовы пераклаў* **ЮРЫ ТРАЧУК**

*Віктар Швед*

## ПЕРШАЯ ВЫПЛАТА

*(Апавяданні з маёй маладосці)*

Быў канец верасня пасляваеннага сорак шостага. Адправіўся я ў невядомую Варшаву, дзе прынялі мяне на ўступны курс польскай філалогіі. Варшава ашаламіла сваім разбураным выглядам. Уся ў руінах, толькі цэнтральныя вуліцы былі праездкымі, па якіх грузавікі вазілі людзей на работу і, потым, дахаты.

У сваім вершы „Варшава", прысвечаным жыхарам сталіцы, я сцвердзіў:

*Тваёй красы ранейшай я не бачыў,*
*Не меў цябе ў дзіцячых успамінах.*
*А ў сорак шостым быў я поўны плачу,*
*Калі ўваходзіў на твае руіны.*

Пасля начнога качавання на Віленскім вакзале і ў прытулку для бяздомных „Caritas", што знаходзіўся на Кракаўскім прадмесці, я, разам з аднакласнікамі з бельскай беларускай школы, знайшоў прыстанішча ў напалавіну зруйнаваным доме пані Ляскоўскай у Зялёнцы. Адтуль мы, — павіслыя на клямках дзвярэй, стоячы на ступеньках даваенных вагонаў, — даязджалі перапоўненымі цягнікамі ў Варшаву. Безграшовая сітуацыя выгнала нас неўзабаве ад Ляскоўскай; ізноў апынуліся на вуліцы. Пашукалі паратунку ў кіраўніка ацалеўшага студэнцкага дома, на плошчы Нарутовіча. Раскватаравалі нас там у гімнастычнай зале, на казарменных ложках з дэмабілізацыі. Не атрымалі мы, аднак, стыпендыяў, якія ў той час мелі нямногія. Некаторыя, у іх ліку і я, пачалі ліхаманкава шукаць нейкага платнага занятку.

Месяц снежань аказаўся ласкавы: атрымаў работу ў Польскім прэсавым агенцтве (PAP), якое размяшчалася тады на вул. Фоксаль. На пасадзе практыканта. Маёй задачай было сабіраць і апрацоўваць інфармацыі аб дзейнасці маладзёжных арганізацыяў. Не меў прытым абавязку васьмігадзіннага праседжвання за рэдакцыйным сталом. Галоўнае — тэрмінова падрыхтаваць патрэбныя матэрыялы. Пасля заняткаў ва універсітэце, вечарамі бегаў я па дадзеных адрасах. На маё шчасце, арганізацыі працавалі таксама вечарамі. Апрацоўкі перадаваў кіраўніку маладзёжнай секцыі Агенцтва, Крыстыне Вальчак. Кіраўніком жа агульнага аддзела быў рэд. Краль.

Перад Калядамі радасна квітаваў першую ў жыцці выплату! Маючы ў кішэні кашалёк з заробленымі грашыма, надумаў з'ездзіць на Каляды да бацькоў. Пайшоў у горад, каб прыдбаць старым падарункі. Насіў я кароткую зношаную вясковую куртачку. Кашалёк схаваў у заднюю кішэньку, не прадбачваючы па наіўнасці, што гэта найпанаднейшае месца злодзеям.

На скрыжаванні Маршалкоўскай з праспектам Ерузалімскім пхаўся я ў трамвай нумар дзевяць, каб вярнуцца. Якісьці мужчына энергічна дапамагаў мне. Трэба сказаць, што гэта яму ўдалося. Калі „дзевятка" ўжо кранулася, я зарыентаваўся, што прапаў мой кашалёк з грашыма. Закрычаў, але было ўжо запозна, а злодзей застаўся на вуліцы. Не змог я заснуць тады да раніцы. Дачакаўшыся дня, пайшоў з плачам у рэдакцыю. Мне спачувалі. Кіраўнік Краль пазычыў на дарогу ў маё Мора. Я хуценька купіў святочную паштоўку і напісаў на ёй:

*W miły Dzień Bożego Narodzenia,*
*Gdy na świat przychodzi Dziecię Boże,*
*Jak najserdeczniejsze swe życzenia*
*Składam Wam, Kochany Redaktorze!*

Адсвяткаваўшы з бацькамі Каляды, вярнуўся ў Варшаву. Прынёс у рэдакцыю свой доўг. Якое ж было маё здзіўленне, калі ўгледзеў на сваім рэдакцыйным стале падобную паштоўку:

*Szwedowi Wiktorowi,*
*Co ma głupio w głowie,*
*Skrywając w sercu żal,*
*Składa również życzenia*
*Redaktor Kral.*

Прачытаўшы не раз гэтыя радкі, я задумоўваўся, чаму ён так — крыўдліва — аднёсся да маіх слоў удзячнасці за дапамогу?!

## СТУДЗЕНЬ — STYCZEŃ

| | | | |
|---|---|---|---|
| **1** | **19** | **Пн** | **Баніфата, Mieczysława, Nowy Rok** |
| 2 | 20 | А | Ігната, Хведара, Izydora |
| 3 | 21 | Ср | Ульяны, Пятра, Danuty |
| 4 | 22 | Ч | Анастассі, Фядоссі, Eugeniusza |
| 5 | 23 | Пт | Паўла, Ніфанта, Emiliana |
| 6 | 24 | Сб | *Куцця*, Яўгеніі, *Trzech Króli* |
| **7** | **25** | **Н** | **Каляды (Нар. Хрыст.), Juliana** |
| 8 | 26 | Пн | *Сабор Прасвятой Багародзіцы,* Mścisława |
| 9 | 27 | А | Сцяпана, Хведара, Marceliny |
| 10 | 28 | Ср | Ніканора, Агаты, Nikanora |
| 11 | 29 | Ч | Маркела, Марка, Honoraty |
| 12 | 30 | Пт | Аніссі, Хвядоры, Arkadiusza |
| 13 | 31 | Сб | *Шчодры вечар*, Маланні, Bogumiły |
| **14** | **1** | **Н** | **Новы Год, Васіля, Feliksa** |
| 15 | 2 | Пн | Серафіма, Сільвестра, Makarego |
| 16 | 3 | А | Гардзея, Малахіі, Włodzimierza |
| 17 | 4 | Ср | Засімы, Феакціста, Rościsława |
| 18 | 5 | Ч | Міхея, Апалінарыі, Małgorzaty |
| 19 | 6 | Пт | *Вадохрышча (Богаяўленне),* Mariusza |
| 20 | 7 | Сб | *Сабор св. Іаана Хрысціцеля,* Sebastiana |
| **21** | **8** | **Н** | **Юрыя, Емяльяна, Agnieszki, Dzień Babci** |
| 22 | 9 | Пн | Піліпа, Пятра, Wiktora, *Dzień Dziadka* |
| 23 | 10 | А | Рыгора, Феафана, Marii |
| 24 | 11 | Ср | Хвядоса, Міхаіла, Franciszka |
| 25 | 12 | Ч | Таццяны, Савы, Tatiany |
| 26 | 13 | Пт | Ярмілы, Пятра, Pauliny |
| 27 | 14 | Сб | Ніны, Angeliki |
| **28** | **15** | **Н** | **Паўла, Прахора, Tomasza** |
| 29 | 16 | Пн | Даната, Пятра, Hanny |
| 30 | 17 | А | Антона, Macieja |
| 31 | 18 | Ср | Апанаса, Кірылы, Ludwiki |

## ЛЮТЫ — LUTY

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | 19 | Ч | Макара, Арсеня, Ignacego |
| 2 | 20 | Пт | Яфіма, Іны, Mirosława |
| 3 | 21 | Сб | Максіма, Яўгена, Stefana |
| **4** | **22** | **Н** | **Цімафея, Лявона, Weroniki** |
| 5 | 23 | Пн | Клімента, Генадзя, Agaty |
| 6 | 24 | А | Ксені, Герасіма, Kseni |
| 7 | 25 | Ср | Рыгора, Майсея, Romualda |
| 8 | 26 | Ч | Аркадзя, Марыі, Hieronima |
| 9 | 27 | Пт | Яна, Дзмітрыя, Nikifora |
| 10 | 28 | Сб | Яфрэма, Ісаака, Elwiry |
| **11** | **29** | **Н** | **Ігната, Рамана, Lucjana** |
| 12 | 30 | Пн | Васіля, Рыгора, Modesta |
| 13 | 31 | А | Мікіты, Віктара, Swietłany |
| 14 | 1 | Ср | Трыфана, Васіля, Walentego, *Walentynki* |
| 15 | 2 | Ч | *Грамніцы (Стрэчанне Гасп.),* Jowity |
| 16 | 3 | Пт | Ганны, Сямёна, Danuty |
| 17 | 4 | Сб | Сідара, Мікалая, Łukasza |
| **18** | **5** | **Н** | **Агаты, Хвядоса, Wiaczesława** |
| 19 | 6 | Пн | Хрысціны, Марфы, Konrada |
| 20 | 7 | А | Парфена, Лукі, Leona |
| 21 | 8 | Ср | Захара, Хведара, Feliksa, *Popielec* |
| 22 | 9 | Ч | Нікіфара, Панкрата, Małgorzaty |
| 23 | 10 | Пт | Валянціны, Ганны, Damiana |
| 24 | 11 | Сб | Усевалада, Дзмітрыя, Sergiusza |
| **25** | **12** | **Н** | **Аляксея, Мялеція, Wiktora** |
| 26 | 13 | Пн | Зоі, Святланы, *Пачатак Вялікага Посту,* Aleksandra |
| 27 | 14 | А | Кірылы, Аўксенція, Anastazji |
| 28 | 15 | Ср | Анісіма, Еўфрасінні, Romana |
| 29 | 16 | Ч | Касьяна, Ludomira |

## САКАВІК — MARZEC

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | 17 | Пт | Данілы, Памфіла Radosława |
| 2 | 18 | Сб | Хведара, Марыяны, Heleny |
| **3** | **19** | **Н** | **Лявона, Флавіяна, Maryny** |
| 4 | 20 | Пн | Архіпа, Максіма, Kazimierza |
| 5 | 21 | А | Агафона, Карніла, Adriana |
| 6 | 22 | Ср | Цімафея, Юрыя, Wiktora |
| 7 | 23 | Ч | Маўрыкія, Апанаса, Tomasza |
| 8 | 24 | Пт | Аляксандра, Палікарпа, Beaty, *Dzień Kobiet* |
| 9 | 25 | Сб | Эразма, Яна, Katarzyny |
| **10** | **26** | **Н** | **Тараса, Cypriana** |
| 11 | 27 | Пн | Парфірыя, Севасцьяна, Konstantego |
| 12 | 28 | А | Пракопа, Ціта, Grzegorza |
| 13 | 29 | Ср | Марыны, Дамінікі, Krystyny |
| 14 | 1 | Ч | Антаніны, Еўдакіі, Jakuba |
| 15 | 2 | Пт | Хвядота, Арсеня, Klemensa |
| 16 | 3 | Сб | Зянона, Кляонікa, Izabeli |
| **17** | **4** | **Н** | **Данілы, Герасіма, Zbigniewa** |
| 18 | 5 | Пн | Адрыяна, Іраіды, Cyryla |
| 19 | 6 | А | Аркадзя, Хведара, Józefa |
| 20 | 7 | Ср | Васіля, Яўгена, Klaudii |
| 21 | 8 | Ч | Феафілакта, Лазара, Mikołaja |
| 22 | 9 | Пт | *40 мучанікаў,* Кесарыя, Bogusława |
| 23 | 10 | Сб | Міхаіла, Кандрата, Pelagii |
| **24** | **11** | **Н** | **Сафрона, Яфіма, Gabriela** |
| 25 | 12 | Пн | Рыгора, Феафана, Marii |
| 26 | 13 | А | Хрысціны, Нікіфара, Larysy |
| 27 | 14 | Ср | Венядзікта, Расціслава, Lidii |
| 28 | 15 | Ч | Аляксандры, Гапея, Anieli |
| 29 | 16 | Пт | Трахіма, Юльяна, Wiktoryny |
| 30 | 17 | Сб | Аляксея, Макара, Dobromira |
| **31** | **18** | **Н** | **Кірылы, Трахіма, Balbiny** |



# БЕЛАРУСКІ 1996 КАЛЯНДАР

У першай калонцы лічбаў прыводзяцца даты па новаму стылю; у другой — па старому стылю, прычым першых трынаццаць лічбаў адносяцца да папярэдняга месяца. У чацвёртай калонцы даюцца імёны святых або назвы важнейшых святаў: на першым месцы (па-беларуску) названы праваслаўныя імёны (святы), а на другім месцы (папольску) — каталіцкія імёны (святы). Тоўстым шрыфтам пазначаны нядзелі і дзяржаўныя або каталіцкія святы, якія з'яўляюцца днямі вольнымі ад працы ў Польшчы. Курсівам пазначаны важнейшыя праваслаўныя святы а таксама недзяржаўныя каталіцкія і важнейшыя сямейныя.

## ЛІПЕНЬ — LIPIEC

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | 18 | Пн | Лявона, Іпата, Haliny |
| 2 | 19 | А | Юды, Засімы, Marii |
| 3 | 20 | Ср | Мяфодзія, Апанаса, Anatola |
| 4 | 21 | Ч | Юльяна, Цярэнція, Elżbiety |
| 5 | 22 | Пт | Зіны, Зянона, Karoliny |
| 6 | 23 | Сб | Арцёма, Агрыпіны, Agrypiny |
| **7** | **24** | **Н** | **Нар. св. Хрысціцеля Іаана, Cyryla** |
| 8 | 25 | Пн | Фяўронні, Пятра, Prokopa |
| 9 | 26 | А | Давіда, Дзяніса, Weroniki |
| 10 | 27 | Ср | Марціна, Самсона, Witalisa |
| 11 | 28 | Ч | Сяргея, Германа, Olgi |
| 12 | 29 | Пт | *Пятра і Паўла,* Janiny |
| 13 | 30 | Сб | 12 Апосталаў, Eugeniusza |
| **14** | **1** | **Н** | **Кузьмы і Дзям'яна, Stelli** |
| 15 | 2 | Пн | Фоція, Ювеналія, Włodzimierza |
| 16 | 3 | А | Анатоля, Піліпа, Marii |
| 17 | 4 | Ср | Андрэя, Марфы, Aleksego |
| 18 | 5 | Ч | Апанаса, Сяргея, Kamila |
| 19 | 6 | Пт | Юльяны, Валянціна, Wincentego |
| 20 | 7 | Сб | Тамаша, Акакія, Eliasza |
| **21** | **8** | **Н** | **Пракопа, Феафіла, Daniela** |
| 22 | 9 | Пн | Кірылы, Панкрата, Magdaleny |
| 23 | 10 | А | Антона, Апалона, Apolinarego |
| 24 | 11 | Ср | Вольгі, Яўфіміі, Krystyny |
| 25 | 12 | Ч | Міхаіла, Арсеня, Walentyny |
| 26 | 13 | Пт | Гаўрылы, Сцяпана, Anny |
| 27 | 14 | Сб | Анісіма, Юста, Natalii |
| **28** | **15** | **Н** | **Уладзіміра, Юліты, Wiktora** |
| 29 | 16 | Пн | Юліі, Аляўціны, Marty |
| 30 | 17 | А | Марыны, Лазара, Julity |
| 31 | 18 | Ср | Емяльяна, Яна, Ignacego |

## ЖНІВЕНЬ — SIERPIEŃ

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | 19 | Ч | Серафіма, Макрыны, Piotra |
| 2 | 20 | Пт | *Ільі*, Апанаса, Kariny |
| 3 | 21 | Сб | Сымона, Ануфрыя, Lidii |
| **4** | **22** | **Н** | **Марыі Магдаліны, Dominika** |
| 5 | 23 | Пн | Трахіма, Феафіла, Nony |
| 6 | 24 | А | Хрысціны, Барыса, Jakuba |
| 7 | 25 | Ср | *Ганны*, Алімпіяды, Doroty |
| 8 | 26 | Ч | Параскевы, Ермалая, Cypriana |
| 9 | 27 | Пт | Панцеляймона, Навума, Romana |
| 10 | 28 | Сб | *Смаленскай і Супрасльскай ікон Божае Маці,* Borysa |
| **11** | **29** | **Н** | **Калініка, Серафіма, Zuzanny** |
| 12 | 30 | Пн | Андроніка, Валянціна, Sławomiry |
| 13 | 31 | А | Юліты, Еўдакіма, Diany |
| 14 | 1 | Ср | Макавеяў, Аляксандра, Maksymiliana |
| **15** | **2** | **Ч** | **Сцяпана, Васіля, Wniebowzięcie NMP** |
| 16 | 3 | Пт | Ісаака, Антона, Rocha |
| 17 | 4 | Сб | Еўдакіі, Елеўферыя, Jacka |
| **18** | **5** | **Н** | **Ноны, Яўсігнея, Ilony** |
| 19 | 6 | Пн | *Спаса (Праабраж. Гасп.),* Juliana |
| 20 | 7 | А | Пімена, Мітрафана, Bernarda |
| 21 | 8 | Ср | Мірона, Емяльяна, Franciszka |
| 22 | 9 | Ч | Мацвея, Антона, Cezarego |
| 23 | 10 | Пт | Лаўрэнція, Рамана, Filipa |
| 24 | 11 | Сб | Хведара, Васіля, Emilii |
| **25** | **12** | **Н** | **Фоція, Аляксандра, Luizy** |
| 26 | 13 | Пн | Максіма, Ціхана, Sandry |
| 27 | 14 | А | Міхея, Хвядоса, Moniki |
| 28 | 15 | Ср | *Спленне (Успенне Пр. Багародзіцы),* Patrycji |
| 29 | 16 | Ч | Дзяміда, Херымона, Sabiny |
| 30 | 17 | Пт | Мірона, Паўла, Róży |
| 31 | 18 | Сб | Флора, Лаўра, Rajmunda |

## ВЕРАСЕНЬ — WRZESIEŃ

| | | | |
|---|---|---|---|
| **1** | **19** | **Н** | **Андрэя, Цімафея, Bronisława** |
| 2 | 20 | Пн | Самуіла, Севіра, Stefana |
| 3 | 21 | А | Фадзея, Васы, Szymona |
| 4 | 22 | Ср | Апанаса, Агафоніка, Lilianny |
| 5 | 23 | Ч | Ірынея, Калініка, Doroty |
| 6 | 24 | Пт | Пятра, Георгія, Beaty |
| 7 | 25 | Сб | Варфаламея, Ціта, Reginy |
| **8** | **26** | **Н** | **Наталлі, Адрыяна, Radosława** |
| 9 | 27 | Пн | Пімена, Савы, Sergiusza |
| 10 | 28 | А | Ганны, Арсеня, Łukasza |
| 11 | 29 | Ср | *Галавасека (Усячэнне Галавы св. Іаана Хрысціцеля),* Jacka |
| 12 | 30 | Ч | Аляксандра, Хрыстафора, Marii |
| 13 | 31 | Пт | Генадзя, Купрыяна, Eugenii |
| 14 | 1 | Сб | Сымона, Марфы, Cypriana |
| **15** | **2** | **Н** | **Яна, Руфіны, Nikodema** |
| 16 | 3 | Пн | Дарафея, Анфіма, Edyty |
| 17 | 4 | А | Юльяна, Хведара, Justyny |
| 18 | 5 | Ср | Елізаветы, Раісы, Stefanii |
| 19 | 6 | Ч | Макара, Рамана, Konstancji |
| 20 | 7 | Пт | Лукаша, Сазонта, Eustachego |
| 21 | 8 | Сб | *Прачыстая (Нараджэнне Пр. Дзевы Марыі),* Mateusza |
| **22** | **9** | **Н** | **Перанясенне мошчаў муч. Гаўрыіла, Tomasza** |
| 23 | 10 | Пн | Клімента, Пятра, Tekli |
| 24 | 11 | А | Сяргея, Германа, Teodora |
| 25 | 12 | Ср | Юльяна, Хведара, Aurelii |
| 26 | 13 | Ч | Карніла, Валерыяна, Justyny |
| 27 | 14 | Пт | *Уздзвіжанне Крыжа Гасподняга,* Damiana |
| 28 | 15 | Сб | Мікіты, Сцяпана, Luby |
| **29** | **16** | **Н** | **Людмілы, Віктара, Michała** |
| 30 | 17 | Пн | Веры, Надзеі, Любові, Zofii |

## КРАСАВІК — KWIECIEŃ

1 19 Пн Дар'і, Клаўдзія, Grażyny
2 20 А Сяргея, Яна, Władysława
3 21 Ср Якуба, Тамаша, Ryszarda
4 22 Ч Васіля, Ісаака, Wacława
5 23 Пт Лідзіі, Нікана, Wincentego
6 24 Сб Арцёма, Захара, Norberta
**7 25 Н Благавешчанне (Дабравешчанне Пр. Багародзіцы), Вербніца, Wielkanoc**
**8 26 Пн Алы, Ларысы, Wielkanoc**
9 27 А Матроны, Мануіла, Dymitra
10 28 Ср Іларыёна, Сцяпана, Michała
11 29 Ч Марка, Кірылы, Leona
12 30 Пт Яна, Сафрона, Juliusza
13 31 Сб Іпата, Іоны, Idy
**14 1 Н Вялікдзень, Марыі, Яфіма, Justyny**
15 2 Пн *Вялікодны Панядзелак, Палікарпа,* Anastazji
16 3 А Мікіты, Фядоссі, Julii
17 4 Ср Язэпа, Юрыя, Roberta
18 5 Ч Хвядоры, Платона, Alicji
19 6 Пт Мяфодзія, Яўціхія, Tymona
20 7 Сб Даніла, Рыгора, Agnieszki
**21 8 Н Радзівона, Руфы, Feliksa**
22 9 Пн Вадзіма, Дзісана, Łukasza
23 10 А Цярэнція, Аляксандра, Jerzego
24 11 Ср Анціпа, Якуба, Aleksandra
25 12 Ч Васіля, Давіда, Jarosława
26 13 Пт Артамона, Дзмітрыя, Marzeny
27 14 Сб Марціна, Антона, Teofila
**28 15 Н Трахіма, Анастасcі, Marka**
29 16 Пн Галіны, Ірыны, Rity
30 17 А Адрыяна, Сямёна, Katarzyny

## ТРАВЕНЬ — MAJ

**1 18 Ср Віктара, Кузьмы, Święto Pracy**
2 19 Ч Хрыстафора, Трыфана, Anatola
**3 20 Пт Гаўрыіла Заблудаўскага, Konstytucji 3 Maja**
4 21 Сб Януара, Сакрата, Moniki
**5 22 Н Віталя, Клімента, Ireny**
6 23 Пн *Юрыя*, Аляксандра, Rościsława
7 24 А Савы, Елізаветы, Ludmiły
8 25 Ср Сільвестра, Марка, Stanisława
9 26 Ч Глафіры, Васіля, Karoliny, *Dzień Zwycięstwa*
10 27 Пт Сямёна, Сцяпана, Antoniny
11 28 Сб Кірылы, Максіма, Miry
**12 29 Н Мемнона, Дыядора, Dominika**
13 30 Пн Якуба, Мікіты, Roberta
14 1 А Тамары, Макара, Bonifacego
15 2 Ср Барыса, Глеба, Nadziei
16 3 Ч Цімафея, Хвядоса, Andrzeja, *Wniebowstąpienie*
17 4 Пт Пелагеі, Сільвана, Sławomira
18 5 Сб Ірыны, Адрыяна, Eryka
**19 6 Н Міхея, Іова, Mikołaja**
20 7 Пн Ніла, Акакія, Bazylego
21 8 А Арсена, Яна, Wiktora
22 9 Ср *Мікалая*, Ісая, Wiesławy
23 10 Ч *Ушэсце (Узнясенне Гасподняе)*, Таісы, Iwony
24 11 Пт *Кірылы і Мяфодзія*, Joanny
25 12 Сб Германа, Дзяніса, Grzegorza
**26 13 Н Аляксандра, Макара, Pauliny, Zielone Świątki, Dzień Matki**
27 14 Пн Мікіты, Сідара, Magdaleny
28 15 А Мадэста, Пахома, Augustyna
29 16 Ср Хведара, Музы, Teodozji
30 17 Ч Сцяпана, Еўфрасінні, Feliksa
31 18 Пт Клаўдзіі, Юліі, Anieli

## ЧЭРВЕНЬ — CZERWIEC

1 19 Сб Патрыкія, Карніла, Jakuba, Dzień Dziecka
**2 20 Н Сёмуха (Дзень Св. Тройцы)**, Marianny
3 21 Пн *Дзень Святога Духа*, Tamary
4 22 А *Крыначка*, Якуба, Karola
5 23 Ср Еўфрасінні, Лявона, Dobromira
**6 24 Ч Сцяпана, Сямёна, Norberta, Boże Ciało**
7 25 Пт Яна, Ферапонта, Wiesława
8 26 Сб Карпа, Алены, Maksyma
**9 27 Н Ніла, Хвядоры, Pelagii**
10 28 Пн Мікіты, Ігната, Nikity
11 29 А Фядоссі, Яна, Feliksa
12 30 Ср Ісаака, Якуба, Onufrego
13 31 Ч Ерамея, Філасофа, Antoniego
14 1 Пт Усціна, Дзяніса, Elizy
15 2 Сб Нікіфара, Яна, Jolanty
**16 3 Н Лук'яна, Паўлы, Aliny**
17 4 Пн Мітрафана, Марфы, Laury
18 5 А Ігара, Дарафея, Elżbiety
19 6 Ср Тэклі, Сусанны, Gerwazego
20 7 Ч Валерыя, Хвядота, Bogny
21 8 Пт Хведара, Яфрэма, Alicji
22 9 Сб Кірылы, Марфы, Innocentego
**23 10 Н Аляксандра, Цімафея, Wandy, Dzień Ojca**
24 11 Пн Варфаламея, Варнавы, Jana
25 12 А *Св. Ануфрыя*, Пятра, Łucji
26 13 Ср Антаніны, Ганны, Pawła
27 14 Ч Елісея, Мяфодзія, Władysława
28 15 Пт Амоса, Віта, Raisy
29 16 Сб Ціхана, Яўтропія, Piotra i Pawła
**30 17 Н Мануіла, Ісмаіла, Lucyny**

# КАЛЯНДАР 1996 „НІВЫ”

### ДАДАТКОВЫЯ ВЫХАДНЫЯ ДНІ Ў 1996 ГОДЗЕ

6, 20, 27 студзеня;
10, 17, 24 лютага;
2, 16, 30 сакавіка;
6, 13, 27 красавіка;
2, 4, 11, 25 траўня;
1, 8, 22, 29 чэрвеня;
13, 20, 27 ліпеня;
3, 17, 31 жніўня;
7, 21, 28 верасня;
5, 19, 26 кастрычніка;
2, 9, 30 лістапада;
21, 27, 28 снежня.



## КАСТРЫЧНІК — PAŹDZIERNIK

1 18 А Софіі, Ірыны, Danuty
2 19 Ср Давіда, Канстанціна, Dionizego
3 20 Ч Міхаіла, Алега, Teresy
4 21 Пт Кандрата, Дзмітрыя, Franciszka
5 22 Сб Іоны, Пятра, Igora
**6 23 Н Андрэя, Іраіды, Artura**
7 24 Пн Уладзіслава, Тэклі, Marka
8 25 А Сяргея, Еўфрасінні, Pelagii
9 26 Ср Яна, Яфрэма, Ludwika
10 27 Ч Зінаіды, Марка, Pauliny
11 28 Пт Вячаслава, Харытона, Zenaidy
12 29 Сб Феафана, Кірыяка, Serafina
**13 30 Н Міхаіла, Рыгора, Edwarda**
14 1 Пн *Пакрова (Пакроў Пр. Багародзіцы)*, Bernarda
15 2 А Андрэя, Усціны, Jadwigi
16 3 Ср Дзяніса, Яна, Florentyny
17 4 Ч Веранікі, Уладзіміра, Lucyny
18 5 Пт Пятра, Піліпа, Łukasza
19 6 Сб Тамаша, Макара, Piotra
**20 7 Н Пелагеі, Сяргея, Ireny**
21 8 Пн Таісы, Пелагеі, Urszuli
22 9 А Якуба, Аўраама, Filipa
23 10 Ср Амвросія, Андрэя, Ignacego
24 11 Ч Піліпа, Зінаіды, Marcina
25 12 Пт Марціна, Кузьмы, Darii
26 13 Сб Веньяміна, Карпа, Lucjana
**27 14 Н Назара, Параскевы, Iwony**
28 15 Пн Лук'яна, Яна, Tadeusza
29 16 А Лонгіна, Dalii
30 17 Ср Андрэя, Кузьмы, Zenobii
31 18 Ч Лукі, Язэпа, Urbana

## ЛІСТАПАД — LISTOPAD

**1 19 Пт Яна, Клеапатры, Wszystkich Świętych**
2 20 Сб Арцёма, Герасіма, Bohdana
**3 21 Н Іларыёна, Феафіла, Sylwii**
4 22 Пн *Казанскай Іконы Божае Маці*, Karola
5 23 А Якуба, Ігната, Sławomira
6 24 Ср Апанаса, Арэфы, Feliksa
7 25 Ч Марціна, Анастаса, Antoniego
8 26 Пт Дзмітрыя, Апанаса, Seweryna
9 27 Сб Несцера, Андрэя, Teodora
**10 28 Н Пяценка, Параскевы, Неанілы, Neli**
**11 29 Пн Ганны, Анастасcі, Święto Niepodległości**
12 30 А Зіновія, Арцёма, Witolda
13 31 Ср Урбана, Нікадзіма, Mikołaja
14 1 Ч Кузьмы і Дзям'яна, Emila
15 2 Пт Маркіяна, Акіндзіна, Idalii
16 3 Сб Гапея, Язэпа, Marka
**17 4 Н Нікандра, Анікея, Grzegorza**
18 5 Пн Галакціёна, Рыгора, Romana
19 6 А Паўла, Клаўдзіі, Elżbiety
20 7 Ср Засімы, Антона, Anatola
21 8 Ч *Міхаіла*, Рафаіла, Konrada
22 9 Пт Матроны, Анісіфара, Marka
23 10 Сб Радзівона, Арэста, Klemensa
**24 11 Н Віктара, Сцепаніды, Flory**
25 12 Пн Яна, Ніла, Katarzyny
26 13 А Нікіфара, Яна, Sylwestra
27 14 Ср Піліпа, Рыгора, Waleriana
28 15 Ч Гурыя, Дзмітрыя, Zdzisława
29 16 Пт Мацвея, Сяргея, Błażeja
30 17 Сб Рыгора, Нікана, Andrzeja

## СНЕЖАНЬ — GRUDZIEŃ

**1 18 Н Платона, Рамана, Natalii**
2 19 Пн Адрыяна, Аўдзея, Pauliny
3 20 А Рыгора, Ганны, Franciszka
4 21 Ср *Уводзенне ў храм Пр. Багародзіцы*, Barbary
5 22 Ч Філімона, Архіпа, Krystyny
6 23 Пт Мітрафана, Аляксандра, Mikołaja
7 24 Сб Кацярыны, Парфірыя, Marcina
**8 25 Н Пятра, Клімента, Marii**
9 26 Пн Якуба, Інакенція, Nataszy
10 27 А Рамана, Паладзія, Danieli
11 28 Ср Сцяпана, Хведара, Daniela
12 29 Ч Парамона, Нектарыя, Aleksandra
13 30 Пт Андрэя, Фрументія, Łucji
14 1 Сб Навума, Філарэта, Arseniusza
**15 2 Н Авакума, Апанаса, Niny**
16 3 Пн Савы, Сафрона, Euzebiusza
17 4 А *Варвары*, Юльяна, Olimpii
18 5 Ср Савы, Захара, Bogusława
19 6 Ч *Мікалая*, Dariusza
20 7 Пт Яна, Амвросія, Bogumiły
21 8 Сб Анфісы, Кірылы, Tomasza
**22 9 Н Ганны, Сцяпана, Honoraty**
23 10 Пн Ангеліны, Тамаша, Sławomiry
24 11 А Данілы, Нікана, Ewy
**25 12 Ср Аляксандра, Спірыдона, Boże Narodzenie**
**26 13 Ч Яўгена, Арэста, Dionizego**
27 14 Пт Філімона, Апалонія, Żanety
28 15 Сб Трыфана, Сцяпана, Cezarego
**29 16 Н Агея, Марына, Dawida**
30 17 Пн Данілы, Ананія, Eugeniusza
31 18 А Зоі, Севасцьяна, Sylwestra

Зорка
старонка для дзяцей

# Калянднікаў без „гвязды” не шанавалі

**Інтэрв'ю з настаўнікамі бельскай „тройкі” правялі: Гражына Пашкоўская, Юля Навумчук, Юліта Вяршко, Аня Ткачук, Аня Жураўль, Ася Якімюк, Моніка Мельнік, Андрэй Таранта і Дыяна Краўчук. Дзеці самі выбралі суразмоўцаў і паставілі ім такія вось пытанні:**

*— Ці ўспамінаеце Каляды з часоў свайго дзяцінства? Калі так, скажыце, што найбольш вам запамяталася?*

**Васіль Ляшчынскі** (дырэктар школы, год нараджэння — 1947): — Свята Каляд для мяне вельмі сімпатычнае і ўспаміны пра часы, калі я быў малы, таксама. Калісь заўсёды было многа-многа снегу, быў люты мароз, але Каляды былі незвычайным святам, бо мелі цёплую сямейную атмасферу. Матуля варыла куццю, кісель з аўса, бацька ішоў у лес за ёлкай а я, разам з братам, клеілі цацкі. Усе чакалі зоркі. Ёлку ставілі аж пад саму столь. Пазней, калі я станаўся большым, ёлка чамусьці ўсё меншала і меншала.

**Галіна Гаворка** (настаўніца гісторыі, год нараджэння — 1934): — Гэтыя ўспаміны спалучаюцца з роднай вёскай Волькай-Выганоўскай. Святочны стол не быў такі багаты, як сёння. У тыя часы цяжка было дастаць рыбу. Калядную вячэру рыхтавалі з хатніх прыпасаў. Куплялі толькі селядцы. Варылі „шчолак” (так называлі кампот з сушаных яблык і груш-дзічак), боршч, пляцкі, куццю, варэнікі з капустай і грыбамі. Пад абрусак клалі сена. У кутку (на покуці) дзед ставіў кветку збожжа. Ставілі таксама талерку нечаканаму госцю.

**Валянціна Бабулевіч** (настаўніца беларускай мовы, год нараджэння — 1964): — Самай любімай ядой быў для мяне кісель з аўса. Быў ён у нашай хаце датуль, пакуль жыла бабуля. Памятаю, што нават маленькая, я з хваляваннем чакала зорку. Любіла таксама прыбіраць ёлку, а раней рыхтавала ўсякія цацкі. У маёй бацькоўскай хаце ніколі не было штучных ёлак.

**Галіна Федарук** (выхавацелька V„е”, матэматык, год нараджэння — 1960): — У нас гатавілі дванаццаць страў, таму што ў годзе дванаццаць месяцаў. А калі не хапала часу, то рыхтавалі менш, але захоўвалі парны лік.

*— Ці вы калядавалі?*

**Галіна Гаворка:** — Перш як пайшлі калядаваць, доўга да гэтага рыхтаваліся. Цэлы пост мы развучвалі калядкі, упрыгожвалі „гвязду”. Калядавацъ ішлі ў першы дзень свят, адвячоркам. Стараліся паспець найперш да багацейшых, да бацюшкі, дзяка, бо там найлепш плацілі.

**Валянціна Бабулевіч:** — У Кленіках, маёй роднай вёсцы, дзяўчаты і хлопцы хадзілі калядаваць аддзельна. Толькі хлопцы калядавалі з „гвяздай”. Звычайна наведвалі гаспадароў у сваёй вёсцы і на хутары, а калі нехта меў яшчэ сілу, ішоў у суседнія мясціны. Я калядавала доўга, аж па студэнцкія часы.

**Галіна Федарук:** — Калядаваць я не хадзіла, бо не люблю спяваць. Вельмі, аднак, мне падабаліся калядкі. Мае ўспаміны пра калядоўшчыкаў спалучаюцца з вёскай Ступнікі над Нарвай.

**Васіль Ляшчынскі:** — У часы майго дзяцінства калядннікі прыходзілі з „гвяздай” або „шопкай” — батлейкай. Такіх, што прыходзілі з голымі рукамі, у Орлі проста не шанавалі. Тыя, у каго была найпрыгажэйшая „гвязда” ці батлейка, атрымоўвалі большыя грошы. Трэба было таксама падвучыцца спяваць. Калядаваць ішлі вечарам. Я калядаваў з „шопкай”, якую зрабіў мой дваюрадны брат, майстар на ўсе рукі. Гэта была каляровая скрынка, у якой прадстаўляліся цені фігурак. „Шопка” была так прыдумана, што ўсярэдзіне было колка, на ім круціліся фігуркі, але гледачы маглі пабачыць толькі іх цені. Найпрыгажэйшыя „гвязды”, якія я бачыў, рабілі хлопцы ў Кашалях.

*— Што найбольш змянілася ў сённяшнім святкаванні?*

**Галіна Гаворка:** — Сёння дзеці зусім не падрыхтаваныя духова. Калісь людзі мелі больш часу і больш увагі адводзілі традыцыям свята. Найважнейшым здарэннем цяпер ёсць абмен падарункамі. Раней не ведалі гэтага звычаю.

**Валянціна Бабулевіч:** — Няма ўжо ў хаце кветкі са збожжа. Каляду пачынаем, дзелячы просвіру.

**Васіль Ляшчынскі:** — Колішняя абраднасць была намнога цікавейшай, поўнай, багатай. Сённяшняя, гарадская, у многім штучная. Ставім штучныя ёлачкі, пускаем касеты з калядкамі, а калісь усё было натуральнае. Людзі ў вёсках былі бліжэй прыроды, бачылі і зоркі, і неба, і дрэвы. Калі святкавалі, то святкавалі разам з прыродай. Памятаю, што калі заходзілі калядаваць, то ў хаце гасілі святло. Зіхацела аднак, „гвязда” і яна пасылала ўсім таямнічае, цёплае святло. А сёння бывае так, што прыйдзе дзесяць груп і ўсе тую самую калядку спяваюць.

*— Ці ў гэтым годзе прымеце калянднікаў?*

**Галіна Федарук:** — Зразумела. Аднак не ведаю, ці не паеду ў вёску.

**Васіль Ляшчынскі:** — Заўсёды прымаю, калі знаходжуся ў хаце.

**Галіна Гаворка:** — У святы сустракаемся з сям'ёй. Прыемна тады, калі завітаюць калянднікі.

**Валянціна Бабулевіч:** — Прымаю калядннікаў усіх, нават з каталіцкімі калядкамі. Будзе мне вельмі прыемна, калі прыйдзеце да мяне з беларускімі калядкамі.

*— Дзякуем за размову і жадаем вам спакойных і здаровых Свят.*

Апрацавала
**Ганна Кандрацюк**



*Гражына Пашкоўская і Юля Навумчук бяруць інтэрв'ю ў дырэктара Васіля Ляшчынскага.* **Фота Ганны Кандрацюк**

## Як святкавалі Каляды ў маёй сям'і

Нашыя продкі на Каляды практыкавалі розныя звычаі.

На стале абавязкова мела быць куцця. Ад ёй пачыналі вячэру. Пасуду на стол ставіў бацька. Пад абрусам ляжала сена. Вячэра пачыналася толькі тады, калі на небе паказалася першая зорка. Людзі сядзелі паводле парадку — ад наймалодшага да найстарэйшага, каб у гэтай чарговасці ажаніцца або выйсці замуж. Пасля вячэры дзеці падыходзілі да ёлкі.

Цяпер гэтыя звычаі гінуць. У мяне дома вячэра пачынаецца тады, калі прыйдуць усе госці. Пасля вячэры спяваем калядкі. Падарункі атрымліваем раніцай.

Вельмі люблю Каляды.

**Міхась Сцепанюк**

* * *

Прабабка Таня вельмі часта расказвала мне пра Каляды. Важнай справай была падрыхтоўка святочнай вячэры. На стол клалі сена, а пазней засцілалі ільняны абрус. На ім ставілі дванаццаць розных страў: боршч, грыбы, селядцы, карп і іншыя. Заўсёды пакідалі месца нечаканаму госцю.

Вячэра пачыналася малітвай. Найперш каштавалі куццю. Пазней варажылі, выцягвалі сцяблінкі з-пад абруса. Верылі, што той, хто выцягнуў найдаўжэйшую травіну, будзе жыць доўга.

У першы дзень Каляд малыя дзеці хадзілі па хатах калядаваць. Яны насілі „гвязду”. Многія калядоўшчыкі пераапраналіся за ўсякіх звяроў. На другі дзень усе адпачывалі.

**Аня Аўсянюк**

## Вучнёўская творчасць

### Хрыстос нарадзіўся!

Ужо Калядаў час настаў.
Бацька з лесу ёлку вязе,
Мама пірагі пячэ.
Пад абрусам сена.
Настаў час Хрыстовага Нараджэння.

Калянднікі спяваюць.
Гаспадыні на сталы стаўляюць
Каля рыбы куццю,
Каля баршчу просвіру.

Праз вокны дзеткі выглядаюць,
Першай зорачкі чакаюць.
Ёсць! Ёсць! — крычаць дзеці, —
Можам ужо за сталом пасядзеці!

**Жанэта Роля** (кл. V „а”)

* * *

На двары мароз,
Свет пад снегам спіць,
А ў нашым доме
Ёлка зіхаціць.

Святочны настрой,
Падарункі пад ёлкай чакаюць,
А мы ўсёй сям'ёй
Да вячэры сядаем.

**Мажэна Жменька** (кл. V „е”)

# Пра Каляды

Каляды — зімовае свята дахрысціянскага паходжання. Каляда пачынае і канчае гаспадарчы год. Намнога пазней, калі на беларускія землі прыйшло хрысціянства, да старажытнага свята дапасавалі рэлігійнае свята нараджэння Хрыста.

Менавіта таму ў свята Каляд язычніцкія звычаі перамешваюцца з хрысціянскімі.

У час Каляд нашыя продкі спраўлялі многа абрадаў, якія мелі забяспечыць багацце і шчасце на цэлы год.

На Каляды, пасля вячэры, гаспадары „сеялі боб” па хаце і па двары, каб збожжа ўрадзілася як боб. Гаспадыні карміілі курэй куццёй у абручы, каб яны трымаліся свайго двара і не неслі яек дзе папала. На працягу двух тыдняў ад Куцці нашыя продкі нават у будні дні не выконвалі сур'ёзных гаспадарчых работ, акрамя таго як даглядзець жывёлу — даць корм і напаіць, прыгатаваць абед. А вечарамі і зусім нічога не рабілі.

**Анна Краўчук, Ева Сцепанюк, Хрыстафор Раманюк, Міхал Сцепанюк, Аліна Сікорска, Чарак Хіліманюк**

## Святочная крыжаванка н-р 1



Калі вы правільна адгадаеце ўсе словы, атрымаецца лозунг (hasło). Дашліце яго ў рэдакцыю. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

1. белы зімой, 2... Каляд, 3. спяваюць іх у час Каляд, 5. гуляем на ім зімой, 5. апошні месяц года, 6. упрыгожваем дом у Каляды, 7. наступнае пасля восені, 8. там расце елка, 9. ядуць яе, калі з'явіцца першая зорка, 10. кладзем яго пад ёлку.

Крыжаванку складалі: **Ася Тамашук, Агата Гуральчук, Лукаш Гушч, Эва Пракапюк, Давід Рошчанка, Пшэмак Міхальчук, Адрыян Крукоўскі, Андрэй Здановіч, Данель Копа і Томэк Суліма.**

Гэты нумар „Зоркі” рэдагавалі вучні кл. V "е" ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім.



Талон "Зоркі" н-р 1
7.01.1996

# „Свяча” ў Чыжах

У Чыжах, як у адной з нямногіх праваслаўных вёсак Беласточчыны, захавалася традыцыя вырабу васковых свечак, з якімі братчыцы стаяць на святочных багаслужбах.

У нядзелю 4 снежня, напярэдадні Увядзення Божай Маці ў Храм, пасля святой літургіі настаяцель Іаан Раманчук прыпомніў прыхаджанам, што ў гэты вечар будуць супольна рабіць свечкі. Людзі сабраліся ў 17 гадзін. Бацюшка шчыра прывітаў усіх, а асабліва тых, хто прыйшоў першы раз. Пачалася праца. Жанчыны лілі воск і спявалі святыя песні. Самае галоўнае, гэта вельмі дакладна размяць разагрэты воск. Мнуць яго датуль, пакуль няма грудак, калі адстае ад рук. Воск не можа астыць, калі жанчыны перадаюць яго мужчынам, якія фармуюць свечку, кладуць у яе кнот.

— Я ў „свячы” ўдзельнічаю ўвесь час, — кажа Марыя Фірсюк. — Ніхто сёння не ведае, калі гэта пачалося, свечкі ў такі спосаб рабілі нашыя мамы, а можа і мамы мамаў. Калі я была маладая, то ў Чыжах былі дзве „свячы”, свая ў людзей старэйшых, і свая ў моладзі. А пасля і братчыцы, і моладзь стаялі са свечкамі на багаслужбах.

Сёлета воск мялі дваццаць адна жанчына. За працай сачылі настаяцель Іаан Раманчук і вікарны бацюшка Іаан Сцепанюк.

— Кожная свечка павінна быць такая самая, — кажа настаяцель, — вялікая вагою ў 800 грамаў, а меншая — у 200 грамаў.

Выгладжваюць і раўняюць свечкі спецыяльнай дошкай. Гатовыя выносяць адразу ў халодную залу, дзе яны стынуць.

Сёлета воск куплялі ў двух пчаляроў: 11 кілаграмаў у Локніцы і больш за 18 — у Лушчах. Зрабілі з яго 24 вялікія і 10 меншых свечак. Праца пайшла спраўна і за дзве гадзіны свечкі былі гатовыя. Тады ўсе супольна — рады сваёй працы — селі вячэраць. Напачатак праспявалі „Ойча наш” і бацюшка благаславіў ежу, падрыхтаваную братчыцай Марыяй Іванюк з дапамогай матушкі Анны Раманчук.

Пасля некалькіх хвілін слова ўзяў настаяцель, які павіншаваў усіх з надыходзячым святам, жадаючы поспехаў у сямейным жыцці, а таксама ў жыцці прыхода.

— Я вельмі рады нашай сустрэчы, — казаў ён. — Цешыць мяне, што вы шануеце і падтрымліваеце традыцыю, якая ў іншых прыходах загінула. Мы з'яўляемся духоўнай сям'ёй і справы Царквы блізкія нашым сэрцам.

За вячэрай паплылі калядныя песні. Сабраныя спявалі цудоўна, бо былі там і пеўчыя, і тыя, хто ў „Чыжавянах”.

Трэба адзначыць, што хаця чыжоўскі прыход вялікі, то сабраліся амаль выключна жыхары Чыжоў. Быў адзін мужчына са Збуча, сужонства з Лушчоў і бацька нашай матушкі, якія не паленаваўся прыехаць аж з Вроцлава.

Наканец настаяцель падзякаваў Марыі Іванюк:

— Яна была адказная за арганізацыю гэтай „свячы”. Яна думала, як купіць добры воск, як купіць прадукты і як падрыхтаваць наш супольны вечар. Таму, што так хутка і спраўна паплыла наша праца, іменна яна заслужыла вялікіх слоў нашага прызнання.

Хачу адзначыць, што таксама вялікая заслуга ў падрыхтоўцы вечара матушкі Анны Раманчук.

Свечкі прынеслі братчыцы на Увядзенне, а страчалі іх перад царквою святар і вернікі з крыжам і харугвамі. Пасля бацюшка свечкі пасвяціў і братчыцы стаялі з імі на літургіі. І так будуць стаяць на працягу ўсяго года. Да наступнай „свячы”.

**Ніна Адамюк**
**Фота аўтара**



# Святыя дні Ражджаства Хрыстова

Дзякуйма Госпаду за тое, што ў чарговы раз у нашым жыцці пачаліся мы свята Раждждаства Госпада нашага Ісуса Хрыста. Слова (як Апостал і Евангеліст Іаан Багаслоў называе Сына Божага) „целам сталася і пасялілася між нас” (Іаан, 1: 14). Бог, прыняўшы чалавечую постаць, сышоў на зямлю, каб здзейснілася абяцанне, дадзенае яшчэ ў Раі нашым прабацькам Адаму і Еве. Гэта менавіта тады Бог заявіў, што нашчадак (Ісус Хрыстос) жанчыны (Прасвятая Дзева Марыя) пераможа вужа (сатану), інакш кажучы — грэх і вечную смерць, што раскрые зачыненую грэхападзеннем дарогу ў Рай — жыццё вечнае.

Важнасць свята падкрэслівае сама назва тых дзён, якія працягваюцца аж да Богаяўлення. Вось як цудоўна напісаў аб іх невядомы аўтар 80 гадоў таму ў „Маленькім хрысціяніне”, дадатку да журнала „Хрысціянін”, які многа выходзіла тады ў дарэвалюцыйнай Расіі:

„Святкі — гэта сапраўды святыя дні, дні святога ўспамінання двух вельмі важных і радасных здарэнняў у зямным жыцці нашага Збавіцеля — Яго Нараджэння і Хрышчэння.

Тры першыя дні гэтага радаснага, шанаванага ва ўсім свеце свята, царкоўная традыцыя называе трохдзённай Пасхай. Перш за ўсё спяшай, спяшай у гэтыя святочныя дні ў храм Божы: забудзеш там усе зямныя турботы; адчуеш там, што ты знаходзішся ў Віфлеемскай пячоры, у Хрыстовых яслях; там пачуеш спеў ангелаў і зможаш разам з імі ўслаўляць Багамладзенца і Яго Прасвятую Маці; разам з пастырамі можаш пакланіцца Збавіцелю свету, а разам з мудрацамі з усходу прынесці Яму дары. Яны прынеслі Яму золата, а ты прынясі чыстае сэрца, яны ладан, а ты малітву, яны міра, а ты слёзы сардэчнага раскаяння...

Першы і галоўны занятак у святкі — гэта як найчасцей наведваць царкву. А што далей? Потым, калі вернешся дадому, да сваёй сям'і і будзеш дзяліцца з імі святочнай ежай, не забудзь расказаць сваім родным або прачытаць ім пра гісторыю свята... Вазьмі Евангелле, Чэцці-Мінею або іншую адпаведную кніжку і прачытай з іх тыя цікавыя і хвалюючыя расказы аб Хрыстовым Нараджэнні, аб уцёках у Егіпет і іншыя. А што яшчэ? Папраўдзе сказаўшы, то для ўсіх гэтыя дні з'яўляюцца раданымі. Але колькі маем патрабуючых людзей, якія ў такое свята не маюць чаго паставіць на стол, ні з кім падзяліцца святочнай радасцю... Падзяліся тады з патрабуючымі тым, чаго з Божай дапамогай табе не бракуе. Калі ў цябе няма грошай — занясі ім тое, што маеш, падаруй дзецям-сіротам, суцяшы іх тым, чым можаш, зрабі гэта з увагі на Хрыстовае свята, падзяліся з імі іх доляй-нядоляй...

І так праміНуць табе гэтыя святыя дні ў святых, мілых Богу занятках: або ў царкве на Божай службе або ў тваёй хатняй царкве сярод сям'і, або ў меншых братоў Хрыстовых, бедных сірот і хворых”.

Прыгожыя, простыя словы, але як жа прамаўляючыя да сэрца. Думаю, што ў сённяшні час, сярод усяго таго, што дзеецца вакол нас, усім нам патрэбны такія словы. Лічу, што гэтае ўсё можна аднесці і да нашай рэчаіснасці. Апошні фрагмент аднесіцца да многіх з нас, бо калі ў сапраўднасці мы не з'яўляемся сіротамі, то як жа часта бываем імі ў духовым сэнсе. Памятайма аб гэтым у святочныя дні Раждждаства Хрыстова. Стараймася, каб хаця часткова выканаць тое, аб чым прыгадваюць вышэйпрыведзеныя словы. У нас ёсць свае храмы і сем'і, а патрабуючых дапамогі знойдзем. Тады сапраўды належным чынам прывітаем Багамладзенца Хрыста.

**С. Н.**

## Хрыстос нованароджаны

У іудзейскім Віфлееме
Нарадзіўся ў яслях — дзіўна.
Анёлы спявалі ў небе
Цудоўна і мірна.
У яслях Ён быў —
Ісус Хрыстос, дзіця.
І ў сэрцах нашых ажыў
Залог вечнага жыцця.
Без Яго мы нішто,
Як трава, што расце і высыхае.
Толькі з Хрыстом збавенне
прыйшло —
Ён Духа Святога пасылае.
І духовае лячэнне
Нас усіх ахапіла.
У Хрысце толькі збавенне —
Гэта вялікая нябесная сіла.
Нездарма Ірад баяўся
Яго сілы і славы
І нікчэмна лютаваўся.
Хрыстос аднак святы і правы.
Яму пакланіліся пастухі,
Магі прыйшлі з дарамі;
Верныя Божыя слугі —
Яны заўсёды з намі.
Ніхто не змог Яго пакарыць,
Ні Ірад, ні яго памагатыя:
Многа іх, не палічыць,
Але мала яны вартыя.
І сёння тых нямала,
Што хочуць знішчыць яслі,
Крычаць, вішчаць навалай,
Што яслі — гэта басні.
Для нас Хрыстос радзіўся,
Як ясна піша Слова.
У яслях паявіўся,
Каб нам ажыць нанова.
З Егіпта Ён вярнуўся,
Прыйшоў да ўсіх, да нас,
І ў сэрцах разгарнуўся —
Ён вечны Бог і Спас.

**Мікалай Панфілюк**

# Раство Хрыстовае — Каляды

Штогод 7 студзеня Праваслаўная Царква святкуе Каляды паводле старога стылю. Гэта незвычайныя дні, калі яшчэ раз нам даецца магчымасць перажыць вялікую тайну з'яўлення Бога ў Целе, тайну, перад якой розум становіцца бяссільным і якая даступная толькі веры. Праз абрадавую абалонку, што ўзбагачае непаўторны характар Каляд, праз ёлку, куццю, парадкі і традыцыйныя звычаі прабіваецца і глыбейшая рэфлексія.

Існуе рэальная і немінаючая сіла Нараджэння Хрыстовага. Прадказаны прарокамі і спадзяваны стагоддзямі прыход Збавіцеля — гэта гістарычны факт. Ён адбыўся, „калі наступіла паўната часу” (Гал., 4:4), калі даспела ў людзях неадольная прага вызвалення ад грахоў і смерці. Сын Божы — „адбітак Хвалы Айца і адлюстраванне Яго Істоты” (Яўр., 1:3) — прыходзіць да тых, якіх стварыў на свой вобраз і падабенства. Прыйшоў як сапраўднае Святло да людзей „пагружаных у цемры і змроку” (Пс., 106:10). Свой лёс пажадаў спалучыць з зямным лёсам кожнага з нас, асабліва паніжаных, скрыўджаных і загубленых у свеце. Зніжаючыся да людской меры, Ён стаў бачным знакам Божай любові да стварэння, знакам чалавечай велічнасці і ягонага прызвання. Прыйшоў, каб ачысціць і падняць да Сваёй меры тое чалавечае падабенства, прыпадабняючыся ва ўсім апрача граху. Інакш кажучы: выйшаў насустрач нашай нязначнасці, каб вярнуць боскую годнасць чалавецтва. У свеце, дзе панавалі грэх і смерць, пастанавіў абясшкодзіць джала смерці. Быў царом Славы, аднак стаўся падданым імператара, паказваючы, што „наша Айчына ў Небе”. Навучаў у невялікай Палесціне, але ягоная навука ператварыла ўвесь свет. Увасабляў ідэал чалавечай годнасці, аднак перажыў прыніжэнне, няславу і ганебную смерць. У неправдападобным саюзе супярэчнасцяў: у каралеўскай годнасці і ў вобразе слугі, у прыняцці на сябе грахоў свету і ў добраахвотнай канчыне з рук тых, якіх пакахаў, бачым у Хрысце і ясней размяжоўваем праўду і беззаконнасць, годнасць і прыніжэнне, жыццё і смерць.

Таму і гэтак блізкі і дарагі нашаму сэрцу чароўны вобраз увасобленага Сына Божага, што „дзеля нас і дзеля нашага збаўлення” стаў безабаронным дзіцём, не перастаючы быць Богам. Тым не менш сёння, гэтак як і ў тамтую віфлеемскую ноч, свет ставіцца да Хрыста гэтак жа разнастайна. Ёсць людзі, што шчыльна замыкаюць дзверы сваіх сэрцаў, у якіх духоўнае жыццё замерла. Ёсць іншыя, што з дзіцячай верай, без доказаў і сумненняў прымаюць радасную вестку пра Нараджэнне. Яшчэ іншыя, бы магі з Усходу, ідуць насустрач Хрысту, дайшоўшы да веры карпатлівым шляхам доследаў. Бываюць людзі, такія як Ірад, гатовыя змагацца нават з Богам, якія скрыта вераць, а яўна — ненавідзяць. Урэшце ёсць і тыя, для якіх абыякавае ўсё акрамя багатага святочнага стала.

Хай для ўсіх, хто будзе цяпер святкаваць Раство Хрыстовае, будуць гэта благаслаўлёныя дні выяўлення сямейных сувязяў, прыгашаных заган, павагі і згоды. Хай сярод будзённай мітусні дойдзе да нашых сэрцаў вялікая і выратавальная праўда, што „так Бог узлюбіў свет, што Сына Свайго Адзінароднага даў, каб кожны хто верыць у Яго не памёр, але меў жыццё вечнае”.

**а. Канстанцін Бандарук**

# Чалавечыя словы

Бурык быў калісьці сабачыска харошы, бліскучы, круглабокі. Ну, вядома, старасць нікому не ў радасць, хоць кажуць людзі, бачылі істот „пагоднай восені", а прынамсі так іх называюць... Зусім як і з ягоным гаспадаром, Анісам. Здаецца, хоць стары, палінялы, а ўсё ж удавіцы з чатырох навакольных вёсак, будзе з два тузіны, на Анісу пазіраюць і ўсамоце ўздыхаюць: хоць жыве адзін (з Бурыкам), то і сыны яго наведаюць, і хоць нагу яму адымае, дае сабе раду ў хаце, нават гадуе курэй, індыкаў, свінчо, трымае кароўку, а пенсію мае за гаспадарку і за працу ў міліцыі. Чэпае сабе паціху па свеце, у голас не плача, міласці не просіць.

Адно ў Анісы і ў Бурыка асталося з маладых гадоў у непарушным стане: нюх! Нос, вялікі і мясісты, у Анісы чулы да смачнай ежы. Добра корміць сябе стары, на такое не шкадуе, бо ўдосталь пояс зацiскаў і ў галоднае і босае маленства і безбацькоўскае юнацтва. І Бурыку не шкадуе цёплага тлустага супу, салідных костак, засквaранай кашы. На хутарах смяюцца, што хоць Бурык есць не менш чым свіння, то сваімі рэбрамі толькі кепскую славу прыносіць гаспадару. Не морыць сябе і сабаку голадам дбайны гаспадар, але і сам кашчэй, і цюцька ў яго худы.

Вылезе Бурык з будкі, скаланецца сваім цяжкім целам, лусне зубамі па сваіх баках, пачухаецца задняй лапай за вухам, падыме нагу для палёгкі, акіне падслепаватым вокам маёнтак, і акунаецца ў мора пахаў. Вось цяплом дыхае гной з Фросінага хляўчука, то ад пярэстай курыцы нясецца пах чыстага пер'я і запэцканага яйка, то ў Бурыкаў нос востра заходзіць маразок ад бяроз на пагорку... Гарачыя бульбяныя лупіны тоўчаныя з восыпкай, каровіны добры пот змешаны з малаком і сенам. Гаспадаровы злежалы тытунь і едкі дым, ад якога Бурыку робіцца туга ў нутры, і млявы пах „гумафільцаў" каля самога Бурыкавага носа. Замерзлы хлеб, крупінкі кашы на костцы...

Дзед Аніса сёння пах ялінай і смалой. З-пад шопкі даносілася кахаканне — глухі кашаль з перакураных бронхаў — і цяпанне сякеры, — стары сек дровы. Бурык нервова заклубаваў на свежым сене ў будцы, спачатку стараўся ямчэй улегчыся абаранкам, то зноў вылазіў на холад, бразгатаў ланцугом, цягаў яго па снезе, пераступаў з лапы на лапу, варочаў міску. Бляшанка клацала то донцам, то берагамі аб цвёрды стаптаны брудны снег. Не, Бурык не быў галодны, і нічога яму не балела. Праўда, карціла крыху пабегаць па лесе, абнюхаць знаёмыя куткі; у апошні час дзед Аніса баяўся спускаць сабаку з ланцуга нават ноччу — ляснічы Давідовіч страляў як апантаны „дзікіх" катоў і сабак, што адышліся за сто метраў ад гаспадаркі. Сто метраў ад іхняй хаты стаяў лес — спачатку шчыльны маладняк, далей бор, густа падшыты маладым лістовым гаем і кустамі, а затым пачыналася пушча. Туды, бывала, у маладосці, сарваўшыся, бегаў Бурык з сябрамі, лавіў зайцоў. Ужо пад старасць сцягваў ашыйнік з намулянай, лысай шыі, бег куды вочы глядзяць, слухаючы як свішча ў вушах вецер, распасціраючы лапы на ўсю моц, а цяпер нават і бегаць не хацелася. Ламаў раматус нядужыя ўжо лапы, асабліва дранцвела задняя правая нага, ад пят да самага азадка, — пачаставаў яго ляснічы жменяй шроту... Не мог сёння супакоіцца Бурык, пазіраў то на дым, які цёмнай пасмай віўся з коміна, то на старога, які няскладна калдыбаў па падворку.

Дзед падышоў да будкі, засадзіў кароткі тапор пад фуфайку, расшпіліў ашыйнік на Бурыкавай шыі.

— Ну, пабегай. Свята і ты маеш. Не бойся ляснічага, зрэшты, другой смерці ніхто яшчэ не дачакаўся. Ідзем па ялінку. І мяне за гэта не павесяць. Калі нават *заштрахуюць*, то не будуць мець што з нас браць...

Бурык то забягаў наперад, то пятляў наўкол старога, качаўся ў снезе як шчанюк, уздымаючы веер сыпучага пылу. Раптам знік.

Даходзілі да шашы, па якой нядаўна праехаў аўтобус (нават Аніса ўхапіў у ноздры далёкі пах бензіну). На дарозе, засыпанай пакрышанымі коламі снежнымі косткамі нікога не было. Аніса спусціўся з насыпу за прыпынак, увайшоў у гушчар малінніку перарослы гнуткімі бярозкамі, але сабака астаўся на шашы, забегаў каля будкі прыпынка. Заяхкаў, быццам учуў звера. Аніса пабрыў далей у лес. Сабака скаціўся з насыпу, прадзёрся цераз маліннік, схапіў гаспадара за лямцавую халяўку чобата.

— Ты чаго! — тузануў да сябе нагу Аніса. — Ты што там знайшоў? Пайшоў прэч! — але сабака не адступаў, гурчаў усхваляваны і злосны, што гаспадар не разумее ў чым справа. Адбегся, зацяўкаў тоненька як шчанюк, вярнуўся, брахнуў басам. Аніса рушыў назад.

Пад лаўкай на прыпынку стаяў доўгі лазовы кошык з клетчатым пледам пад самую дужку. З кошыка прабіўся тоненькі, як камарыны, піск. Сабака ўжо ўхапіў ражок пледа, засунуў нецярплівую пысу ўсярэдзіну. Дзед здранцвелымі пальцамі разгарнуў знаходку. Зірнулі адтуль на яго цёмна-сінія, запухлыя ад плачу вочкі.

— Яй-ёй! А то тут... на табе... тое... Ат, ёпіхума, б... не маці цябе тут пакінула, ах дзіцятачка ты, сіротка... — схапіўся дзед за сэрца.

У вёску першы ўбег Бурык, абвяшчаючы навіну сабакам і людзям. За ім, амаль на кожным кроку спатыкаючыся, калдыбаў дзед Аніса з цяжкай ношай то на баку, то перад сабою. Да солтыса нёс знаходку, да Сяргея Бароўскага, адзінага маладога гаспадара (таму і выбранага солтысам дэмакратычнай пенсіянерскай большасцю), у якога хаце быў тэлефон.

Збегліся бабы. Дзіцятка яшчэ не прастыла, акутанае ў каптанікі, швэдрыкі і тры пары паўзункоў на пялюшцы „пампэрс". Добра, прыгожа быў адзеты малы, з пасагам — тры замежныя пялюшкі, дзве бутэлькі з малаком. Старая Юлішча, умела адклеіўшы пялюшку, сцвердзіла, што нечаканы госць гэта кавалер. Заохалі, заўздыхалі, зацмокалі бабулькі — даўно не бачылі немаўлятка ў іхняй вёсцы, яшчэ, здаецца, нядаўна такой людна. Пакуль прыехаў доктар і паліцыянты, у пакоі стала быццам цяплей ад гэтых ахаў і охаў. Бурык таксама ўдзельнічаў у агульным захапленні і цудзе, тоўкся пад нагамі, ставаў на заднія лапы, каб агледзець дзіва.

— А пайшоў ты, скаціна! — махнула яму па носе баба Насцечка, пахучая часнаком, хлебным цестам і авечай воўнай. — Хто цябе сюды прасіў, заразу!

— Гэта ж ён знайшоў малое, — пагладзіў Бурыка па гарачай лабэсіне гаспадар. — Малайчына! За такое трэба медаль даць!

Ужо ўзыходзіла першая зорка, як пад хатай забурчэлі машыны. У хаце стала яшчэ цясней, і Бурык падсунуў сваё старое стомленае цела бліжэй печкі-сцяноўкі. Брала яго дрымота, уздыхалася, разнімаліся пашчэнкі, плюшчыліся вочы. Пахла добрым, дарагім, пяшчотным. Людзі тапталіся, шапталі, крычалі, пыталіся, малое кугакала, а сон нахлынаў на сабаку як магутны лес. Але ўспомніў: сёння ж Вілея! У такі вечар можна прамовіць жывёле чалавечымі словамі!

— Ну, памаўчалі б крыху! — азваўся Бурык з-пад печкі.

Ніхто гэтага ці не пачуў, ці не зразумеў. Толькі немаўлятка замоўкла, вытрашчыла вочкі, павярула чырвоны тварык ад трасучай яго на сваіх вялікіх грудзях бабы Ганны Бароўскай у бок старога сабакі.

Яно першы раз зразумела чалавечыя словы.

**Міра Лукша**

# Як я стаў баварцам

Калі вярнуўся з Будапешта, аставалася мне яшчэ 10 дзён водпуску за мінулы год. Крыху пахадзіў туды-сюды і, надзіва, даведаўся, што патрэбны статысты для фільма, які здымаюць у Ланьску, на тэрыторыі вядомага ўрадавага цэнтра адпачынку. У кастрычніку тры дні набіралі кандыдатаў. Калі хочаш быць статыстам у фільме, дык мусіш крыху любіць кіно і прыроду, як я, быць цікавым свету і пільна патрабаваць грошай, як зрэшты ўсе цяпер. Я стаў у чаргу кандыдатаў на статыстаў. Адразу відаць, што большасць з іх — беспрацоўныя. Асістэнтка рэжысёра напамінае ўсім, што гэтая праца часовая, а не пастаянная і што статысты ў кожны свой працоўны дзень атрымаюць смачны абед. Бянтэжуся крыху на думку, што беспрацоўным забіраю працу. Тут, аднак, лічыцца твар — гэта важна. З'яўляецца апякун групы і спісвае прозвішча кожнага, узрост, адрас і нумар тэлефона. Чакаем у чарзе на здымкі. Групу фатаграфуе асістэнт рэжысёра. І гэта канец заняткаў першага дня.

Па пару дзён звоняць да мяне і запрашаюць прымераць касцюмы. На другі дзень пабачыў я ў аўтобусе, што не з'яўляюся адзінай „кіназоркай" — ёсць нас больш. Самаход уязджае ў Ланьск — галоўную кватэру кінематаграфістаў — палякаў і немцаў, якія між сабою гавораць па-англійску. Зноў, другі раз, аглядаюць цябе асістэнты. Нашу групу дзеляць на „гасцей" і „службу". Я стаў „госцем Гёрынга" на паляванні. Адзін стройны бландзін з Картова ператварыўся ў эсэсаўца. Другі — нейкі колішні начальнік, які імпазантна выглядае ў капелюшы з вялікімі палямі, — расказвае пра лёс земляроба, які гаспадарыў над Ланьскім возерам. Усялякія ўраднікі намаўлялі яго, каб выехаў у Германію. А ён, начальнік, дарадзіў яму, каб абедзвюма рукамі трымаўся бацькаўшчыны. Ну і той астаўся: цяпер добра жыве з нямецкіх турыстаў.

Мая чарга ў гардэроб. Распранаюся дагала, як на вайсковай камісіі. На вешалках вісяць дзесяткі мундзіраў і касцюмаў. Прымераваю; шукаю чарговых. Пані касцюмолаг выбірае мне нагавіцы са шкуры: — Будзеш баварцам. Да гэтага лыжныя чаравікі і доўгія да кален шкарпэты, зялёны пуловер і фрэнч з зялёнага сукна. Такі самы капялюш ды плашч. Яшчэ здымак у гэтым строі і ўсё трапляе ў пластмасавы мяшок з маім прозвішчам. Паслязаўтра маю быць у пяць гадзін раніцы перад планетарыем; гэта будзе мае прыгоды дзень трэці.

Вялікі аўтобус запаўняецца размовамі. За вокнамі ноч, Ольштын выглядае як заспаная вёска. Перад Ланьскам раз'ясняецца туман. Калі аўтобус прыязджае на месца — віднее. Апранаюся ў шкураныя нагавіцы, а сваю вопратку хаваю ў мяшок. Мы — „госці Гёрынга", едзем мікробусам на план. На ляснoй дарозе едуць самаходы. Чакаем. Чакаюць „салдаты Вермахта", якія рассядаюцца на кемпінгавых крэселках, чакаюць стройныя „эсэсаўцы", чакаюць нанятыя ўласнікі расавых сабак. Чакае таксама Леў Рывін, шэф „Heritage Film", які мусіць усё пабачыць і праверыць кожнага трапляючага на план. У чорнай непрамакальнай вопратцы выглядае як камандзір падлодкі. Абступаем Караліну Вайду, сімпатычную асістэнтку рэжысёра. Яна ахвотна апавядае пра наш фільм „Лясны цар" („Erlkönig"). Гэта найбольшая мешаная кінапрадукцыя, у якой удзельнічае польскі бок ад часу „Спіска Шындлера".

Канец гультаявання. Ідзем на план. Пад дрэвам стаяць леснікі з сапраўднымі двустволкамі і штуцэрамі. З пэўнай насцярожанасцю раздаюць нам сваё ружжо. Усе ідзем за горку, на якой стаіць камера. Выходзіць рэжысёр — невысокі мужчына ў ваўнянай шапачцы на галаве. Вітае ўсіх. Па-англійску тлумачыць сэнс эпізода. Будзе гэта заканчэнне палявання. На зямлі ляжыць вялікі ўпаляваны алень. Перад намі ўрочышча, дзе адбываліся ўсе слаўныя ўрадавыя паляванні. Падымаецца штучны — фільмавы — туман. Паяўляецца „Гёрынг" у паляўнічай вопратцы. Задача наша простая: ён мае расказаць паляўнічы анекдот, а мы — яго госці, маем з увагаю выслухаць а пасля голасна зарагатаць. Яшчэ світа мае прадэфіліраваць перад строем выстраеных на „зважай" наганяў і салдат.

„Гёрынг" расказвае. Рагочам. Раунд перад шпалерам. „Гёрынг" паляпвае леснікоў па плячах. Паўтараецца ўсё гэта некалькі разоў: аж да перарыву на абед. Чарга пры „баравозе" з захаваннем іерархіі: асобна статысты, асобна акцёры. Абед смакавіты. Пасля перарыву — на план. Сцэна з урачыстага заканчэння палявання. З усіх бакоў сходзяцца паляўнічыя да вогнішча, пры якім бяседуе „Гёрынг". Услугоўваюць слугі ў фраках. Кумпяк з казулі праўдзівы, выглядае апетытна; ёсць яшчэ хлеб, яешня. У пляшках з-пад піва толькі вада. Гучыць каманда: „Аддаць усё назад!". Леснікі ўвесь час пільнуюць, каб нічога на сталася з іхнім ружжом. Пакрысе змяркае. Вяртаемся ў базу. Аўтобус замяняецца ў дыскусійны фільмавы клуб. Нудная, цяжкая праца, кажа адзін. Дурноты накручваюць, кажа другі. Мантажнікі возьмуцца за працу і выйдзе нейкіх пяць мінут фільма, дадае нехта спераду.

І так мне хутка праляцелі тры дні, падчас якіх многа даведаўся пра прадукцыю фільмаў і пазнаёміўся з многімі людзьмі з Ольштына і акцёрамі. Калісь, як у Бельску круцілі фільм „Знахар", быў статыстам і цяпер зноў удалося. Мог бы я ім быць усё жыццё.

**Андрэй Гаўрылюк**

# Студзень

Студзень лічыцца самым халодным месяцам на тэрыторыі Беласточчыны. Назва паходзіць ад слова „сцюжа". Ад імя старажытнарымскага бога Януса паходзіць сучасная руская назва *январь*. Іншыя назвы: украінская — *січень*, польская — *styczeń*, чэшская — *leden*, славацкая — *január*, стараславянская — *просинъць*, верхнелужыцкая — *wulki rožk*, славенская — *prosinec*, серба-харвацкая — *јануар* і *сијечањ* ды балгарская і македонская — *януари* і *јануари*.

На сядэдзіне месяца вышыня Сонца над гарызонтам апоўдні — 14,8°. Сярэдняя тэмпература паветра -5 — -8°С. Моцныя студзеньскія пахаладанні пры малым снегавым покрыве выклікаюць вымярзанні азімых, шматгадовых траў, дрэваў і хмызнякоў. Але паўтаральнасць вялікіх маразоў невялікая. Мінус 40°С зафіксавана ў пачатку 1929 года ды ў студзені 1956 года.

Глыбокае праніканне да нас паветра з сырой Атлантыкі прыносіць адлігі працягласцю ў 8—15 дзён, у асобныя гады да 20 і болей.

Да канца месяца глеба пры сапраўднай зіме прамярзае на глыбіню 30—50, бывае і да 60 см. На азёрах, ставах і рэках інтэнсіўна нарастае лёд, у сярэднім прыбаўляецца яго да 0,4 см за суткі. Пры моцных адлігах бываюць крыгаломы. Зрэдку ў студзені могуць назірацца навальніцы (1958, 1959, 1975 гг.).

*(яц)*

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Сніцца мне палац з вельмі высокімі сценамі, абвешаны карцінамі, каштоўнымі дыванамі, доўгімі шнурамі бурштыну (кавалкі вялікія, як жменя) і іншых каштоўных камянёў, стаяць таксама скрыні і вітрыны з рознымі скарбамі, аздобамі — гэта ўсё нагадвае музей. Маю ў тым палацы вялікі, доўгі пакой, высланы вельмі прыгожым дыванам.

Сарганізавалі мы ў тым доме нейкую сустрэчу-канферэнцыю — у вялікай зале з дыванамі. Людзі прыбралі пасля сябе, і я вельмі рада была, што астаўся парадак.

Пасля чамусьці ў гэтым доме паявіліся нейкія людзі, у большасці высокія дамы, і сказалі, што паклічуць паліцыю, перш за ўсё таму, што сустрэча была нелегальная, а па-другое — што сярод скарбаў ёсць крадзеныя і фальшывыя рэчы. Пачалі ўсё разглядаць, варочаць і шмат што ўкралі.

Я з нейкім дзядулем, які быў удзельнікам тае канферэнцыі, пайшла на могільнік. Не было там магіл з крыжамі, а нейкія грабніцы-сцены, у якія былі засунуты труны. Падышлі мы да аднае сцяны, дзядзька адсунуў каменную пліту, і паказалася адкрытая труна з жанчынай у гадах, прыгожа апранутай, прычэсанай. Чалавек адсунуў і шкляную шыбу. Мы селі на лавачку, а нябожчыца пазяхнула, прыўзнялася і ўсміхнулася да нас. Гэта была вельмі прыгожая бабулька. Расказалі мне, што часта тут сустракаюцца, каб стары мог суцешыць душу і падзяліцца думкамі з памершай жонкай. І мне сапраўды стала неяк весялей, забылася я на тую гісторыю з палацам, пачала размову з нябожчыцай, якая цяпер сядзела ў труне, у прыгожай ружовашэрай сукенцы з фальбонкамі. Дзед выцягнуў пачастунак.

— І вы ясце? А вас жа забальзамавалі? — пытаюся.

— Частуюся, каб кампанія майму мужу была і не адчуваў самоты. Ем, але пасля ў мяне наступае ўнутранае кровазліццё, але я пра гэта яму не кажу...

У гэты момант мяне разбудзіў будзільнік.

Мірка

Мірка! Сон твой гаворыць пра фальш і залежнасць (гэта той палац з рознымі каштоўнымі рэчамі). Але датычыць бадай, службовых спраў.

Ты даведваешся на дадатак, што і скарбы былі крадзеныя, і людзі, што іх аглядалі, аказаліся зладзеямі. Гэта таксама абазначае нейкую небяспеку, страту, варожасць.

Можа, той побыт на могільніку прынясе табе нейкае супакаенне, хаця... тая ажываючая нябожчыца, нягледзячы на тое, што была прыгожай бабулькай, можа таксама прадвяшчаць непрыемнасць.

Астрон

## Позірк у мінулае

**1 студзеня**
379 г. — памёр Васілій Вялікі, хрысціянскі багаслоў.
1467 г. — нар. Жыгімонт І Стары, польскі кароль.
1823 г. — нар. венгерскі паэт Шандар Пецёфі.
1863 г. — нар. П'ер дэ Кубэртэн, ініцыятар сучасных алімпійскіх гульняў.
1922 г. — пачатак дзейнасці Бі-Бі-Сі.
1938 г. — нар. паэтэса Данута Бічэль-Загнетава.

**2 студзеня**
1635 г. — кард. Рышальезаснаваў Французскую акадэмію мовы і літаратуры.
1666 г. — памёр Шах Джахан, вялікамагольскі ўладар Індыі, будаўнік святыні Тадж Махал у Агры.
1959 г. — старт „Лунніка-1", першага зонда Месяца.
1975 г. — Элізабет Даміцье, першай жанчынай у Афрыцы, займае пост прэм'ер-міністра Цэнтральнаафрыканскай Рэспублікі.

**3 студзеня**
1923 г. — памёр Яраслаў Гашак, чэшскі пісьменнік.

**4 студзеня**
1643 г. — нар. Ісаак Ньютан, англійскі фізік.
1809 г. — нар. Луі Брайль, французскі аўтар алфавіта для невідучых.
1967 г. — Пачатак „Культурнай рэвалюцыі" ў Кітаі.

**5 студзеня**
1855 г. — нар. Кінг Жылет, амерыканскі вынаходца прыбораў для брыцця.
1892 г. — нар. асветнік кс. Адам Станкевіч.
1938 г. — нар. Хуан Карлас І, кароль Іспаніі.

**6 студзеня**
1825 г. — адкрыты тэатр „Бальшой" у Маскве.
1838 г. — спрацаваў першы тэлеграф Самюэля Морзэ.
1921 г. — адбыўся першы класічны лыжны слалом блізу Берна ў Швейцарыі.

**7 студзеня**
1991 г. — памёр пісьменнік Кандрат Крапіва.
1993 г. — Эрлінг Кагe з Нарвегіі, пасля пяцідзесяцідзённай вандроўкі, прабыўшы 1310 км, першым у адзіночку дайшоў да Паўднёвага полюса.

**8 студзеня**
1642 г. — памёр Галілеа Галілей, італьянскі астраном.
1878 г. — памёр Нікалай Някрасаў, рускі паэт.
1935 г. — нар. Эльвіс Прэслі, амерыканскі спявак.

**9 студзеня**
1324 г. — памёр Марка Пола, італьянскі мораплавец.
1983 г. — упершыню адкрыта „чорная дзіра", аддеглая к. 150 000 светлавых гадоў ад Зямлі.

**10 студзеня**
1778 г. — памёр Карл Ліней, шведскі біёлаг.
1852 г. — памёр Самюэль Кольт, амерыканскі канструктар рэвальвера.
1863 г. — у Лондане адкрыта першае метро.
1971 г. — памерла Кока Шанель, французская праектантка моды.

**12 студзеня**
1628 г. — нар. Шарль Пэро, французскі пісьменнік.
1841 г. — бельгійскі канструктар Антуан Сакс збудаваў саксафон.
1876 г. — нар. Джэк Лондан, амерыканскі пісьменнік.
1976 г. — памерла Агата Крысці, англійская пісьменніца.

**13 студзеня**
1930 г. — першы фільм з Мікі Маўс.
1941 г. — памёр Джэймс Джойс, ірландскі пісьменнік, аўтар „Уліса".

(Ш)


**BAL NOWOROCZNY 13/14.01.96!!**
w Klubie "Kolejarz"- Białystok, ul.Zwycięstwa 10
Gra zespół "TROFEUM"
z konsumpcją /zgłoszenia do 31.12.95r/ - 120 zł od pary
bez konsumpcji / tylko szampan i napoje / - 65 zł od pary
Zgłoszenia: ZW ZMW, Białystok ul.Sienkiewicza 22, tel.415-720
Zapraszamy!!!

*By marzenia się spełniały*
*Musi pomóc partner stały.*
*Żyj dostatnio, żyj spokojnie,*
*Niech Cię los obdarza hojnie*
*- życzy w Wieczór Wigilijny*


**Polski Bank Inwestycyjny S.A.**
Białystok, ul. Warszawska 14, tel. 435-371, fax 411-896


## СВЯТОЧНЫ КАСЯК

**Направа:** 1. біблейскі прарок, 2. касцельная прашальная малітва, 4. марскі млекакормячы, 6. работнік мясакамбіната, 7. венгерскі кампазітар, 8. форма ўкаранення камуністычных адносін да працы ўведзеная Леніным, 10. славянскае племя, бужане, 13. там літоўская АЭС, 14. радзіма Банапарта, 16. пахаванне, 17. імя кампазітара „Танца з шаблямі", 19. арганізацыя Пазьняка, 20. вынік складання.

**Налева:** 1. любоўніца Самсона, 3. імя Арсенневай, 5. сын Саула, 6. ад берага да берага, 7. маса лёду, якая павольна рухаецца па схіле гары або па даліне, 9. напр. такса, 11. глеба насычаная солямі, 12. прамежак, 15. венгерскае возера, 16. хімічны выраб, 18. бацька Індзіры Гандзі, 19. мужчынскі голас, 21. аквінскі тэолаг.

**(Ш)**



Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 47 н-ра.**

**Гарызантальна:** кляймо, крыўда, станок, Кама, арол, гімнастыка, кола, Далі, Анкара, калена, Данецк.
**Вертыкальна:** клічка, мост, крок, дазвол, анамастыка, магіла, аркада, костка, Ліпецк, Анна, рада.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбалаў і **Мікалаю Сазановічу** з Навінаў-Вялікіх.




**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 421-033.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Рэдагуе калектыў:
Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міранові (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**
**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**
Старшыня Праграмнай рады — Валянцін Сельвясюк

Prenumerata.
1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1996 r. upływa 20 lutego 1996 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 9,10 zł (91 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.
Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,30 zł (13 000 st. zł), a kwartalnie — 16,90 złotych (169 000 st. zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

## Дзед Мароз і мафіоз

Дзед Мароз, табе — пара!
Тут хітры ці не хітры.
Новы год, нібы прараб,
Вунь хімічыць на двары.

Што збудуем — бацька Бог
Сам не ведае яшчэ,
І які яшчэ пірог
Нам чарговы ён спячэ.

З дэпутатамі пайсці
Ды пра ўсё пагаварыць?
Толькі ж ім сваё карціць,
Не смыліць ім, не гарыць.

Апусціўшы вочы ўніз,
Штось мудрыць народ-прастак:
Як прыйшлі мы ў камунізм,
І у рынак прыйдзем так.

Дзе прайшлі бальшавікі,
Там цяпер — біржавікі,
Дзякуй Богу, для жулля
Досыць харчу і жылля.

Вып'ем, гэй, за Новы год,
Прэч Бабулю-кабалу!
П'ём гарэліцу і мёд,
„Дзёгаць" п'ём і п'ём „смалу".

Дзед Мароз...
Ды мафіоз
Каб на двор не прыкаціў,
Каб нам торбаў не прынёс,
З імі ў свет нас не пусціў





*— Вы вялікую заказвалі?* "Вожык"

## Калядызмы

* За святочным сталом муж аддае перавагу „Белавежскай горкай". Жонка аддае перавагу суседу.
* Колькі не пі ў гасцях пад Новы год, а дамоў усё роўна вяртацца трэба.
* Абы выпіўка і закусь была, а госці знойдуцца.
* Хто нетаропка гарэлку на святы п'е, у таго больш улезе.

**У. Паўлюкевіч**

## СЕНТЭНЦЫІ

Той сапраўдны турыст, хто ў даступным усім месцы знаходзіць нешта, чаго не знайшлі іншыя.

* * *

Вечар — гэта світанак ночы.

* * *

Агнём і ліс не замяце слядоў.

* * *

Вачыма кожны мора перальe.

* * *

На сустрэчу душа забрала б цела.

**Барыс Руско**

## З НАШАГА ЖЫЦЦЯ

Стары *фацэт* глядзіць, як танцуюць маладыя, ды кажа:

— Патанцаваў бы я з вамі, толькі вось ботаў шкада...

* * *

Калі Мішка быў пяцігадовым хлапчуком, пятнаццацігадовы Грышка заўсёды яго біў. Мінула гадоў дзесяць, але Мішка ўсё яшчэ помніў зло, якое рабіў старэйшы хлопец, і ўсё думаў, як бы адпомсціць. Думаў-думаў і нарэшце, прыдумаў — вырашыў ён з дваюрадным братам трэніравацца каратэ. Сябры доўга вывучалі сакрэты ды таямніцы гэтага мастацтва, і калі добра засвоілі тэхніку бойкі, пры першай жа сустрэчы моцна адлупцавалі Грышку. Убачыў той, што не здолее перамагчы малакасосаў і кінуўся наўцёкі. Адбег да сваёй хаты, стаў на ганак і гразіць кулаком:

— Гэта ваша шчасце, што я ад вас уцёк, а то як даў бы вам у зубы!..

* * *

— Пляшка гарэлкі — гэта як, многа ці мала? — пытаецца ў бацькі маленькая Мірка.

— Калі хтось табе яе ставіць, — павучае тата дачку, — гэта, безумоўна, мала. А вось калі ты каму-небудзь ставіш — замнога атрымаецца!

* * *

На вясковым вяселлі ладны хлопец заляцаецца да ўсіх прыгожых жанчын ды дзяўчат. Танцуе з імі па чарзе. Хлопец гэты вельмі падабаецца ўсім, адно самая найпрыгажэйшая не глядзіць на яго. Калі, нарэшце, хлопец падыходзіць да яе і прапануе патанцаваць, тая злосна адказвае:

— Ідзі адсюль! Нашто ты мне патрэбны, абрыд, глядзець на цябе не магу!

Усе навокал здзівіліся:

— Чаму яна да цябе так?

— Дык гэта ж мая жонка! — тлумачыць хлопец.

* * *

— Чаму гэта ты амаль штодзённа боты купляеш? — пытаецца сусед Мікіту.

— Так, накупляю іх ой як многа! Іду на рынак, а там „рускія" ўсё просяць: „Купі, пан, танна прадаю!" І сапраўды вельмі танна атрымоўваецца. А мне іх шкада — вось і купляю. Калі так пойдзе і надалей, давядзецца адкрыць уласную краму...

**Аўрора**

## СМЕХ У САНАТОРЫІ

**"Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка**

Муж вяртаецца раней з працы і застае жонку з каханкам у ложку. Стаіць, як укопаны.

— Сцёпа, — гаворыць жонка, — ты так не глядзі, ты вучыся!

* * *

Іван перад выхадам на працу гаворыць жонцы:

— Пасля брыцця адчуваю сябе на дваццаць гадоў маладзейшым.

— А не мог бы ты брыцца вечарам?

* * *

Размаўляюць два сябры:

— Сёння ты нейкі прыгнечаны і сумны...

— Хвілін пару таму пазваніў нейкі мужчына і сказаў, што калі не пакіну яго жонку ў спакоі, то мяне заб'е.

— Дык кінь яе.

— Бяда ў тым, што ён не прадставіўся і не ведаю, якую маю кінуць.

* * *

— Ці чуў ты, каханы, што ўчора забілі ўласніка матрыманіяльнага бюро, праз пасрэдніцтва якога мы пажаніліся?

— На шчасце маю на ўчора алібі, а прычапку да забойства мела напэўна значна больш чалавек.

* * *

— Наш сын зноў падбіраў грошы з кашалька!

— Чаму думаеш, што гэта наш Яцусь? А можа гэта я ўзяла грошы, — бароніць сына жонка.

— Гэта немагчыма; у кашальку гэтым разам крыху асталося.

* * *

— Ты да мяне прымільная толькі тады, калі хочаш атрымаць нейкі падарак, — скардзіцца муж.

— Але ж даражэнькі, я да цябе заўсёды прымільная...

— Ну вось, менавіта.

* * *

Кавальскі вяртаецца п'яны дадому.

— Лайдак ты! — скандаліць жонка.

— Ці ведаеш, як называецца такі чалавек, які цэлымі днямі праседжвае ў рэстаране?

— Ну пэўна, каханая: афіцыянт!

* * *

— Для цябе, каханая, ахвотна аддаў бы я сваё жыццё...

— А на колькі ты застрахаваны?

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка, ты ўсім вельмісь добра раіш і памагаеш у розных справах. Я хачу напісаць, якія ў нас бывалі здарэнні. Я сваю жонку павучаў, як абыходзіцца з залётнымі, але бескультурнымі мужчынамі. Але што з таго: ці ж бабе растлумачыш?

А было так. У нас быў кватырант, ён жыў у пакоі чараз сені. Ні вечарам, ні рана да нас не прыходзіў. Мы ўставалі а пятай гадзіне, а на гэты раз усталі а чвартай, бо я ад'язджаў у Белавежскую пушчу. Вярнуўся я раней, як меў вярнуцца. Уваходзячы ў хату, я на парозе спаткаў кватыранта. Ён ішоў (так сказаў мне) на кухню да мае жонкі нешта пісаць. Праўда, у руках трымаў нейкія паперы. Я там ніц не сказаў, але сваё падумаў. І жонка пасляй ніц не сказала, чаму гэта ён у такую пору прыходзіў, калі гаспадара яшчэ дома не было. І я маўчаў, жонцы ніц не гаварыў. Дык, уяві сабе, чараз пару тыдняў тое самае паўтарылася другі раз.

Пасляй аднаго разу я ад'язджаў на поле, а кватырант адыходзіў на работу. А я адразу не паехаў. А прыйшоў у хату і сеў каля стала, а жонка стаяла каля печкі. Раптам уваходзіць кватырант. Стаў насупраць жонкі і дзівіцца з хвіліну ёй у вочы, ніц не сказаўшы і ніц не запытаўшы. А пасляй сеў каля стала і ніц не гаварыў, толькі сказаў: длугапіса запомнялэм. І пайшоў, не заходзячы нават у свой пакой.

Калісьці мы з жонкай былі ў сваім пакоі, а ён прыйшоў, заглянуў і пайшоў, ніц не сказаўшы. Пасляй таго мая жонка ў суседняй вёсцы апытала кватэру і адправіла кватыранта.

Праз кілька год у нас зноў было двох кватырантаў. Аднаго разу мая жонка ляжала на вузкай казэтцы. Я хацеў каля яе легчы, але жонка сказала: куды лезеш, тут двайм цесна. Але другім разам, калі яна ляжала на той жа казэтцы і я быў у тым пакоі, увайшоў кватырант. Ніц не гаворачы і не пытаўшы, стаў нагой на казэтку і лёг каля мае жонкі. Яшчэ й сказаў: найлепей то з господынён! Я падумаў: дык я стаю, а ён ляжыць каля мае жонкі! Праўда, жонка памалу ўстала, ніц не сказаўшы, то і я маўчаў. Ано падумаў: жонка ніц не сказала, то гэта зноў можа паўтарыцца.

Прайшло больш дзесяці гадоў. Я пра тое больш не думаў і не спамінаў, але жонка спамінала. Я цяпер думаю, што згатовіць на снеданне, а калісь яшчэ й для кватырантаў... А я сказаў: яны не захоўваліся так, як трэба. Як я ад'язджаў кудысьці, то адзін ні ў пору прыходзіў да цябе, тады калі думаў, што ты сама дома, а я ўжо вярнуўся з работы. Здавалася, што гатоў быў накінуцца на цібе. А жонка са злосці: а то ж да цібе прыходзіў, а ні да міне! А можа я тут не стаяла, каб накінуўся на міне! А я кажу: каб ляжала на ложку, то яшчэ лепш было б. Ён лічыў, што міне дома німа, і на цібе дзівіўся, а не на міне. Каб да міне, то сказаў бы пры табе. А жонка кажа: але я не ўгаварувалася з ім! А я ж не кажу, што ўгаварувалася! Памятаеш, як той другі пры мне да цібе ў ложак улез. А жонка: а то ён да печкі, а не да міне. Кажу: а то ж у той час печка не палілася. Ды ён не казаў, што яму добра каля печкі, а сказаў: найлепей то з господынён. І ты на гэта ніц не сказала. Тагды жонка сказала: трэба было яго нагой піхануць. То было б не добра, кажу я. Хоць з некультурным, але можна культурней абыйсціся. Каб была хутчэй устала, дык не паспеў бы ён сказаць: найлепей то з господынён. Добрая жонка прагнала б такога. Куды і чаго, маўляў, лезеш у чужую пасцель, калі сваю маеш! А таму першаму, каб была сказала: чаму-та пан прыйшоў у такую пару, як гаспадара дома няма. На другі раз не прышоў бы і з работы не прыбег бы.

Тадых жонка сказала: я чагось такога чамусь не заўважыла. Сэрцайка, ці павінна была жонка заўважыць, хто каля яе кладавіцца, а хто стаіць? Ці варта было звярнуць увагу нашым кватырантам? А калі варта, дык хто павінен ім звярнуць увагу, я ці жонка мая?

**Х. Х.**

Х. Х.! У маладосці на ўсякі выпадак кватарантаў не бяруць. З другога боку, мо ў маладосці электрычнасці ў вас не было... Хто яго ведае, мо ўпоцемку баба не заўважыла, хто да яе прылёг. А ты адразу ўжо б увагу звяртаў чалавеку. Сораму не маеш!

**Сэрцайка**